


БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 21 (13553)

18 — 24 мая 1992 года

Цана 3 рублі.


У НУМАРЫ:



# ПАГОНЯ ЗА «ПАГОНЯЙ».



Фота С. Брушко

Матэрыял "Геральдычныя гульні" чытайце на старонцы 8.

# ДАВЕДНІК "ПАС": СУПОЛКІ І ЛІДЭРЫ

*Сёння мы распачынаем знаёміць нашых чытачоў з лідэрамі маладзёжных арганізацый, што існуюць у Беларусі. Самая актыўная частка моладзі — студэнцтва, таму перш-наперш прадстаўляем менавіта ягоныя суполкі.*

**Аляксей Глушко, старшыня Рады ЗБС, студэнт 3 курса хімічнага факультэта БДУ, 20 год. З вясны 1990 года, будучы яшчэ школьнікам, з'яўляўся актывістам БНФ, каардынатар хімічнага сектара тэрміналагічнай камісіі Таварыства беларускай мовы.**

**Уладзімір Вяроўкін, студэнт 2 курса гістарычнага факультэта БДУ, 22 гады.**

З'адзіночанне беларускіх студэнтаў (ЗБС) было ўтворана на пачатку 1990 года. Прыкладна з гэтага ж часу газета "Студэнцкая думка", якую раней выпускала студэнцкая суполка "Світанак", становіцца выданнем ЗБС. Трэба зазначыць, што гэта адно са старэйшых нефармальных беларускіх выданняў, якое існуе і зараз. Паводле звестак Рады, у якую ўваходзяць 5 чалавек, ЗБС зараз налічвае каля 50 актыўных сяброў (гэта акрамя калектыўных сябрын). Структуры ЗБС існуюць у БДУ, РТІ, БДПА і іншых мінскіх ВНУ, а таксама ў Гародні, Гомелі, Брэсце і інш. ЗБС мае стасункі са студэнцкімі суполкамі Літвы, Украіны, Польшчы. Дарэчы, З'адзіночанне — адзіная арганізацыя, што мае свой сцяг.

Асноўныя мэты арганізацыі — беларусізацыя вышэйшай адукацыі, дапамога беларускамоўнаму студэнцтву, развіццё нацыянальнай самасвядомасці.

Цяпер ЗБС знаходзіцца ў стадыі рэгістрацыі.

**– Чаму ў незалежнай Беларускай дзяржаве ёсць неабходнасць згуртавання нацыянальна свядомай беларускай моладзі?**

А. Глушко: — Можна проста быць свядомым беларусам, гэта значыць гаварыць на сваёй мове, ведаць сваю культуру і г.д. Але ў нас зараз сітуацыя такая, што нам, беларусам, трэба змагацца за свае правы. Самы просты прыклад: нам, беларускім студэнтам, выкладаюць у нашых навучальных установах на чужой мове.

**– Гэта адзінае, дзеля чаго існуе ЗБС?**

А. Глушко: — Не, што вы. Увогуле, ладзіць для беларускай моладзі цікавае жыццё: ствараюцца ж клубы па інтарэсах. Просты прыклад — моладзь любіць вандраваць. Калі ў нас ладзіцца падобнае мерапрыемства, яно носіць нацыянальны, краязнаўчы характар.

**– А ці варта ствараць арганізацыю дзеля таго, каб толькі хадзіць у вандроўкі? Апошнім часам у мяне складваецца ўражанне, што большасць маладзёжных арганізацый займаецца прыкладна такімі справамі: схадзілі ў вандроўку, наладзілі вечарынку...**

У. Вяроўкін: — Акрамя таго, што мы — студэнцкая арганізацыя, мы — арганізацыя з пэўным палітычным ухілам. Гэтым мы адрозніваемся ад іншых арганізацый, таму што на сённяшні дзень маладзёжныя арганізацыі, і былыя камсамольцы ў тым ліку, кажуць, што іхнія арганізацыі не палітычныя.

**– Тады, як любая палітычная арганізацыя, ЗБС мае мэту – прыйсці да ўлады?**

У.Вяроўкін: — Мы не можам змагацца за ўладу, хаця б таму, што па нашым статуце, тэрмін знаходжання ў арганізацыі абмежаваны часам студэнцтва. А знаходжанне студэнта ў кіруючых органах краіны мне падаецца проста смешным.

А. Глушко: — Нельга сказаць, што мы — арганізацыя не палітычная, бо мы ад палітыкі не адмаўляемся. Мы ў палітыцы выступаем ва ўсіх тых кірунках, што могуць прынесці карысць нашай дзяржаве, нашаму народу. Цяпер мы лічым, што найбольш уплывовая, у нашым разуменні, палітычная сіла — Беларускі Народны Фронт.

**– ЗБС як арганізацыя з'яўляецца часткай Народнага Фронту?**

У. Вяроўкін: — ЗБС не з'яўляецца часткай нічога. ЗБС — гэта незалежная арганізацыя.

А. Глушко: — Але склалася так, што ЗБС мае добрыя кантакты з нацыянальна-дэмакратычнай партыяй, з БНФ. Варта прыгадаць збор подпісаў: ЗБС ладзіла рэгулярны пікет каля Галоўпаштамта, сабрана каля 2 тыс. подпісаў. А ўвогуле, асноўны наш палітычны арыенцір — незалежная, заможная Беларусь.

У. Вяроўкін: – Ёсць такі цікавы выраз: у Англіі няма пастаянных саюзнікаў – ёсць пастаянныя інтарэсы. Дык вось, калі сёння БНФ адпавядае нашым інтарэсам, мы з ім супрацоўнічаем.

**– Якія канкрэтныя справы праводзіць альбо мяркуе правесці ЗБС?**

А. Глушко: — Зарэгістраваўшыся, мы будзем мець права выступаць у Вярхоўным Савеце з законапраектамі па пытаннях адукацыі і культуры, наша арганізацыя збіраецца ўплываць на тую ж самую беларусізацыю вышэйшай адукацыі, на змены ў сістэме адукацыі. Гэта тычыцца менавіта адукацыі, а не толькі мовы. Вядома, для гэтага мы павінны быць юрыдычнай асобай. Як і для таго, каб кантактаваць з іншымі арганізацыямі на сур'ёзным узроўні. Зараз мы выдаём газету "Студэнцкая думка", падрыхтавалі да друку некалькі слоўнікаў, лацінска-беларуска-расейскі медычны, матэматычны і хімічны тэрміналагічны слоўнікі.

**Алесь Шавель, студэнт 4 курса гістарычнага факультэта БДУ, 25 год, старшыня Рады Хаўруса беларускамоўных студэнтаў БДУ, Канцлер гісторыка-патрыятычнага аб'яднання "Чырвоны Жонд", з 1992 года — намеснік старшыні Камітэта маладзёжных арганізацый Беларусі.**



Гісторыка-патрыятычнае аб'яднанне "Чырвоны Жонд" утварылася ў сакавіку 1990 года. Яго статут створаны паводле Статута Вялікага княства Літоўскага. Асноўная задача арганізацыі — прапаганда гістарычнай самасвядомасці, агульначалавечых маральных каштоўнасцяў. Статут аб'яднання ставіць перад яго сябрамі досыць жорсткія маральныя патрабаванні. "Жонд" выступае супраць п'янства, наркаманіі, курэння, брыдкаслоўя і іншых заганаў.

У "Жонд" цяпер уваходзіць каля 40 чалавек. Аб'яднанне зарэгістравана.

У кастрычніку 1991 года ў БДУ прайшоў установчы з'езд Хаўруса беларускамоўных студэнтаў — ХБС, асноўныя мэты і задачы якога — беларусізацыя універсітэта, дапамога беларускамоўным студэнтам, прапаганда беларускай гісторыі і культуры. Каля 80 студэнтаў уваходзяць у Хаўрус. Цяпер ХБС знаходзіцца ў стадыі рэгістрацыі. Хаўрус з'яўляецца калектыўнай сябрынай ЗБС.

Камітэт маладзёжных арганізацый Беларусі быў утвораны ў лістападзе 1991 года, і зараз у яго ўваходзяць 12 зарэгістраваных маладзёжных арганізацый. "Чырвоны Жонд", дарэчы, з'яўляецца членам КМА. Асноўны накірунак працы Камітэта — каардынацыя дзейнасці і дапамога маладзёжным арганізацыям.

А зараз некалькі пытанняў лідэру адразу трох грамадскіх арганізацый.

**– Алесь, Вы – кіраўнік некалькіх арганізацый. Што гэта – свайго роду хобі?**

— Проста так атрымалася: жыццё ідзе хутчэй за нашы жаданні. Таму прыходзіцца... А можа, у мяне лёс такі — быць арганізатарам.

**– А якая з арганізацый больш важная для Вас?**

— Важнае ўсё, але на ўсё часу не хапае. Пакуль што з-за гэтага церпіць асабістае жыццё. Прыходзіцца выбіраць, чым займацца.

**– Чым адрозніваюцца "Жонд" і Хаўрус?**

— Па-першае, сваім складам. У ХБС уваходзяць студэнты універсітэта, а "Жонд" аб'ядноўвае як студэнтаў, так і вучняў школ, рабочых і г.д. Да таго ж "Чырвоны Жонд" ставіць пытанне беларусізацыі больш шырока: беларусізацыя не толькі універсітэта, але й усяго грамадства.

**– А не было б больш карысна аб'яднаць разрозненыя арганізацыі, што змагаюцца за беларусізацыю чаго гэта ні каштавала, у адну вялікую?**

— Можа, калі-небудзь так і будзе?

**– Я ведаю, што ні ХБС, ні "Жонд", ні КМА не з'яўляюцца палітычнымі арганізацыямі. Значыць, Вы не палітык?**

— Ёсць вялікая палітыка: партыі, ідэалогіі, "ізмы" розныя, а ёсць малая. Малая палітыка — гэта магчымасць выжыць і магчымасць нешта зрабіць канкрэтнае. Тое, чым я займаюся, у прынцыпе таксама палітыка: калі арганізацыя існуе, ужо гэта — палітыка.

**– Зараз існуе шмат арганізацый, але іх дзейнасці амаль не бачна. На Ваш погляд, чаму?**

— Усё залежыць ад фінансаў. Арганізацыі не маюць сродкаў, таму і абмяжоўваюцца досыць вузкім колам дзейнасці. Я бачу выхад з такога становішча ў прыцягненні больш фінансавых структур і ў дапамозе з боку дзяржавы. А пакуль жыццё вымушае займацца пэўнай дзейнасцю, каб хаця б выжыць. Калі арганізацыя не атрымлівае датацый ад дзяржавы, калі членскіх складак яўна не хапае, то прыходзіцца нечым займацца — той жа камерцыяй.

**– А ці не замінае невялікая колькасць удзельнікаў дзейнасці арганізацыі?**

— Колькасць у прынцыпе не вельмі ўплывае на статутную дзейнасць арганізацыі, таму што сябры ў асноўнай сваёй масе толькі падтрымліваюць нейкія акцыі. Мабыць, з дзесяці чалавек толькі адзін больш-менш актыўны ў жыцці, г.зн, мае ідэі, а таксама жаданне і магчымасць іх рэалізаваць.

**– Але пагаворым крыху пра "субардынацыю": як суадносяцца між сабой тры грамадскія аб'яднанні: "Жонд", ХБС і КМА?**

— ХБС з'яўляецца калектыўнай сябрынай ЗБС. А "Жонд" як зарэгістраваная арганізацыя ўваходзіць у КМА. Дарэчы, я спачатку быў у сакратарыяце Камітэта. Так што каму, як ні мне, ведаць патрэбы і цяжкасці маленькіх маладзёжных арганізацый. Задача КМА — каардынаваць іхнія дзеянні. Тым больш, што, акрамя маленькіх, КМА ўключае ў сябе і такія арганізацыі, як Саюз моладзі Беларусі, Дзіцячы фонд. Гэта азначае магчымасць узаемадапамогі пры правядзенні якіхсьці агульных імпрэзаў. Тым больш, што Камітэт маладзёжных арганізацый не пакідае спадзяванне, што і дзяржава не забудзе пра моладзь, зможа неяк дапамагчы праз КМА і астатнім маладзёжным аб'яднанням. Тут альбо-альбо: альбо маладзёжныя арганізацыі займаюцца бізнесам, альбо займаюцца сваімі статутнымі мэтамі і не думаюць пра грошы.

Падрыхтавала А.ВОЛІЧ.

*Шляхамі адраджэння*

# Рэспубліка-немаўлятка

## Безалейныя нататкі пра рапартаманію іпра тое, ці пачуе свет беларускую мову

У 1918 годзе беларускі грамадскі дзеяч, пісьменнік, публіцыст Фабіян Шантыр у артыкуле "Патрэбнасць нацыянальнаго жыцьця для беларусаў і самаадзначэньня народу" напісаў: "У аснове сваёй наша мова мая столькі чароўнай прастаты і хараства, што ня пройдзе і колькі дзесяткаў год, як яна ня толькі зраўнуецца з другімі цывілізованымі мовамі, аля пакажа і тую містычную глыбь беларускаго народу, якая да сюль ня зразумела ў Міцкевічу і Дастаеўскім..." (Графіка пададзена згодна з арыгіналам. — аўт.).

Рэспубліканская канферэнцыя "Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь", што прайшла напрыканцы мінулага тыдня ў Доме літаратара, была арганізавана Таварыствам беларускай мовы імя Францішка Скарыны пры садзеянні Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны. На прадстаўнічую нараду ці не ўпершыню пасля другога з'езда ТБМ сабраліся сябры з самых розных куточкаў Беларусі. І кожны ехаў у сталіцу са сваім болем, са сваім клопатам пра лёс роднай мовы, пра ейнае адраджэнне. А ніводны з выступаў не пакідаў абыякавай залу. Факты, што прагучалі ў Доме літаратара, уражвалі, здзіўлялі, прымушалі задумацца.

...У Менскім педагагічным інстытуце правялі канферэнцыю, прысвечаную выдатнаму педагогу Я.Каменскаму. З 60-ці дакладаў толькі чатыры былі выкладзены па-беларуску.

Абвесткі ў беларускамоўным друку падаюцца па-расейску.

Старшыню суполкі ТБМ з Салігорска перад ад'ездам на канферэнцыю загадчык аддзела народнай адукацыі папярэдзіў: "Прыедзеце — адпрацуеце прапушчаныя ўрокі". У тым жа Салігорску, калі вырашылі ў выканкаме даць памяшканне тэбээмаўскай суполцы, старшыня вынес сваю рэзалюцыю: "Нам беларуская мова не патрэбная".

У Акадэміі навук Беларусі, як засведчыў яе віцэ-прэзідэнт Радзім Гарэцкі, толькі два ці тры Інстытуты праводзяць свае вучоныя рады па-беларуску.

...Доўгі час "пад замком" хавалася статыстыка адносна таго, якія пасады часцей займаюць прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Што тычыцца кіраўнікоў ВНУ, установ аховы здароўя, адукацыі, то сярод іх на першым месцы — рускія, пасля — украінцы, яўрэі, палякі... І толькі напрыканцы пераліку — беларусы.

У Паставах і іхніх ваколіцах дзейнічаюць 6 касцёлаў і 6 цэркваў. З аднаго боку на беларускае Адраджэнне наступае паланізацыя. Касцёльныя казанні вядуцца па-польску. У школках ксяндзы навучаюць (бясплатна, па сваёй, зразумела, ініцыятыве) дзетак польскай мове. Побач з касцёламі — праваслаўныя цэрквы. Іхні твар вызначае адсутнасць аўтакефальных памкненняў, русіфікацыйны імпэт.

Усё вышэйпрыгаданае і стала яскравым фонам для высноў, але ўжо на дзяржаўным узноўні. Калі ўважліва аналізаваць дзейнасць нашых дзяржаўных структур — парламента, урада, мясцовых органаў улады, то складаецца ўражанне, што з іх боку ў дачыненні да роднай мовы, да працэсаў беларусізацыі ідзе сапраўдная гульня. Праявіла рашучасць грамадскасць — рашэнне прынята. Не, дык і няма з-за чаго дзіды ламаць.

Таму і размова на канферэнцыі ішла вострая, ніхто нікому ў сваіх выступах саломку не падсцілаў. Шкада вось толькі, што ад даклада намесніка Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.Дземчука і ад выступлення міністра культуры Я.Вайтовіча, і ад шэрагу іншых размоў патыхала традыцыйным імкненнем адрапартаваць, што зроблена. Канешне, у абшарах, падначаленых гэтым людзям структур зроблена шмат. Аднак ці не найважней гаварыць пра няздзейсненае, пра тое, што патрабуе клопатаў? Як слушна заўважыў той жа спадар Дзямчук: "Ідзём у сусветную супольнасць". Менавіта гэта і дыктуе вырашэнне праблем на дзяржаўным узроўні. А калі так, то чаму не чутно панавання роднай мовы ў Вярхоўным Савеце, ва ўрадзе? Чаму, як заўважыў старшыня ТБМ імя Ф.Скарыны Ніл Гілевіч, усталяванне мовы сустракае перашкоды?

Удзельнікі канферэнцыі прыйшлі да згоды — трэба наладзіць кантроль за выкананнем Закона аб мовах, сфарміраваць паўсюдна адпаведныя структуры. Бо заўтра можа быць позна...

Алесь Карлюкевіч.

«ПАС» падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі,
тэл. 39-87-94.

*Усё, што датычыць кватэрнага пытання, безумоўна, выклікае вялікую цікавасць ва ўсіх. І тых, хто стаіць у чарзе на атрыманне жылля, і тых, хто гэтыя кватэры ўжо мае. Таму не дзіўна, што Закон "Аб прыватызацыі жылля" стаў з'явай, выключнай з усёй 9 сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі, для кватэраздымшчыкаў. Шмат што людзі хацелі ўдакладніць, шмат што было проста незразумела. Ведаючы гэта, я з асабістай цікавасцю паставіўся да прэс-канферэнцыі, якую правёў прэс-цэнтр ВС РБ па закону "Аб прыватызацыі жылля".*

*Пытанняў было вельмі шмат і, сказаць па шчырасці, дэпутату ВС, старшыні камісіі па архітэктуры і будаўніцтву Міхалаю Ермалаевічу Капытаву і двум яго памочнікам — Л.Г.Сініцыну і Г.Г.Дабравольскаму — прыйшлося даволі складана.*

# Дзе будзем жыць заўтра?

**— Вядома, што Закон павінен пачаць працаваць з 1 ліпеня 1992 года. Але ці распрацаваны механізмы яго дзейнасці?**

— Нягледзячы на тое, што Закон уступае ў дзеянне ўжо даволі хутка, механізмы яго працы яшчэ не ўстаноўлены. Адразу пасля прыняцця Закона на сесіі Савет Міністраў атрымаў устаноўку гэтыя механізмы распрацаваць. Я думаю, што ў гэтую працу ўключацца і дэпутаты ВС, і супрацоўнікі Акадэміі навук і Міністэрства жыллёва-камунікацыйнай гаспадаркі.

**— Якія кватэры могуць быць прыватызаваны?**

— Пакуль што прыватызаваць можна толькі кватэры дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду. Прыватызацыя будзе бязвыплатная, платная і змешаная.

**— Каму, якой катэгорыі насельніцтва які від прызначаецца?**

— Усім, у залежнасці ад працоўнага стажу будзе выплачана грашовая квота. За гэтыя грошы людзі змогуць альбо выкупляць свае кватэры, альбо будаваць новыя.

**— Колькі складае гэтая грашовая квота?**

— Для чалавека, які адпрацаваў і мае стаж 35-40 год, гэтая квота складзе 5 тыс. 600 руб. за метр квадратны. Мінімальная ж грашовая выплата будзе — 700 рублёў.

**— І вы думаеце, што за гэтыя грошы сёння можна будзе выкупіць кватэры?**

— Разлік кошту аднаго квадратнага метра жыллёвай плошчы будзе праводзіцца па цэнах 1991 года (вось толькі пачатку ці канца 1991 г.? — Зм.Л.).

**— Паколькі я прадстаўляю маладзёжнае выданне, хачу спытаць: што і за якія грошы будуць выкупляць маладыя людзі, якія яшчэ не маюць працоўнага стажу і жывуць на сённяшні дзень у кватэры бацькоў?**

— Калі яны дасягнулі сталага ўзросту, то таксама атрымаюць выплату грашовай квоты (найхутчэй па мінімуму, калі няма працоўнага стажу) і могуць альбо разам з бацькамі выкупляць іх кватэру, альбо браць дадатковую пазыку ў дзяржавы і будаваць сваю кватэру альбо дом.

**— Толькі ж выплата будзе адбывацца па цэнах 1991 г., а будматэрыялы прадавацца па сённяшніх?**

— ...

**— Вопыт якіх краін вы ўлічвалі рыхтуючы Закон "Аб прыватызацыі"?..**

— У першую чаргу Польшчы. Ездзіла наша дэлегацыя з гэтай мэтаю і ў Венгрыю.

**— Наколькі вядома, у Венгрыі існуюць ільготы ў гэтым сэнсе для маладых сем'яў. Ці будзе такое ў нас?**

— Не, у нас для маладых сем'яў ніякіх ільгот не будзе.

**— Не баіцеся, што кватэры ў большасці выпадкаў скупяць спекулянты і мафія?**

— Спадзяюся, што такога не адбудзецца. Здаецца, у Законе закладзены ўсе ўмовы, каб пазбегнуць гэтага. Папершае: кватэры выкупляюцца тымі, хто ў іх пражывае. Па-другое: пакупнік павінен з'яўляцца грамадзянінам Беларусі, пастаянна жыць на яе тэрыторыі. А па-трэцяе: прадаць выкупленую кватэру можна толькі праз тры гады. Па сканчэнні гэтага часу яна можа быць прададзена толькі праз райвыканкам.

**— Ці будзе ўсё ж, на вашу думку, створаны рынак жылля ў Беларусі?**

— На сённяшні дзень у Беларусі патрэбны кватэры 660 тысячам сем'яў. Гэта каля 2 млн. чалавек. Многія ж людзі маюць павышаную жыллёвую плошчу, альбо ўвогуле 2 кватэры. Улічваючы ўсё гэта, мне здаецца, што рынак жылля павінен з'явіцца.

**— Што вы параіце людзям: прыватызаваць свае кватэры ці не? Усё ж, стаўшы ўласнікамі, яны вымушаны будуць самі сачыць за рамонтам і г.д.?**

— Безумоўна, гэта так. Але мая думка — трэба прыватызаваць. Усё ж мы ідзём да рынку. Рынку, які немагчыма сабе ўявіць без уласніка, які будзе дбаць пра сваю ўласнасць. Акрамя таго, стаўшы гаспадаром, вы можаце змяняць у кватэры ўсё — нават планіроўку.

**— Ці будзе якая кампенсацыя тым людзям, што выкупілі кватэры раней?**

— Так. Розніца ў коштах будзе ім выплачана.

Безумоўна, па ходу самога працэсу прыватызацыі ўзнікне яшчэ шмат пытанняў. На сённяшні ж дзень мне здаецца: галоўны недахоп у тым, што не распрацавана сістэма, сам механізм прыватызацыі. А ён, на маю думку, самы складаны. Толькі хочацца спадзявацца на лепшае і верыць, што хутка ва ўсіх нас будуць свае, уласныя кватэры.

Зм.ЛУКАШУК,
аглядальнік
па пытаннях эканомікі.

Фота С.Брушко.



*На заўвагу бізнесмену*

# Бойцеся хітрых пастак пасрэдніцкіх фірм!

Пастка першая: сячы з ходу. Нясталыя прадстаўнікі страхавых і пасрэдніцкіх агенцтваў практыкуюць эфект нечаканасці. Таму не давайце згоду на дачасна не абумоўленую сустрэчу, а калі Вы ўсё ж зацікавіліся прапановай перамовіцца, вызначце тэрмін, каб паспець падрыхтавацца.

Пастка другая: прыкрывацца фірмай. Мілагучная назва — гэта зусім не гарантыя сталага прадстаўніцтва. Даведайцеся ў гэтага незалежнага кансультанта (пасрэдніка), на каго ён працуе і ці сапраўды ён незалежны. Часта перад вамі проста прадстаўнік адной фірмы, які прадае вырабы толькі свайго прадпрыемства. У дадзеным выпадку паспрабуйце выведаць у субяседніка аб прапанове канкурэнтаў.

Пастка трэцяя: не пакідаць слядоў. Калі ваш візіцёр перад адыходам забірае з сабой усе свае паперы — будзьце асцярожныя. Не пакінуўшы сабе ніякага пісьмовага дакумента ад яго, вам потым будзе немагчыма даказаць некампетэнтную кансультацыю, ілжывыя сцвярджэнні. Сур'ёзныя кансультанты ніколі не адмовяцца пакінуць кліенту праспекты і матэрыялы, нават калі да дамоўленасці паміж імі справа яшчэ не дайшла.

Пастка чацвёртая: словы — гук і дым. Працэнтныя вылічэнні, дадатковыя ўмовы і агаворкі трэба фіксаваць пісьмова. Дабівайцеся ад прадстаўніка фірмы подпісу пад імі. У выпадку адмаўлення вы маеце права лічыць, што вам абяцаюць залатыя горы. У адваротным выпадку вам потым няма чаго будзе даказваць.

Пастка пятая: хто пытаецца, той ініцыятар. Гэта галоўнае правіла камерцыйнай псіхалогіі: пытаецца — значыць, задае тон, захоўвае за сабой ініцыятыву ў размове. Субяседніку застаецца толькі імкнуцца весці на роўных размову. Так што паболей пытайцеся.

Пастка шостая: адкласці на потым. Існуюць розныя метады адказу на пярэчанні. Адзін з іх — адкласці на потым. Субяседнік спрабуе адчапіцца ад спадарожнага пытання ці ад пярэчання ходкай фразай: пра гэта пазней. Тым самым як бы здымаецца непрыемнае пытанне. Таму памятайце сабе ўсе ўзнікшыя пытанні і дабівайцеся ў канцы іх рашэння. Лоўкія метадычныя кансультанты выкарыстоўваюць пры гэтым яшчэ больш эфектыўны метад прымусіць замоўкнуць незгаворлівых. Гэта — пастка сёмая: метад бумеранга. На пытанне кліента трэба задаць контрпытанне, якое прымушае даваць тлумачэнні, якія не заўсёды тут жа можна знайсці.

Пастка восьмая: пытацца з падкалупліваннем. Пытанні накшталт "Вам, відаць, хацелася б мець працэнты вышэй!" не пакідаюць таму, каго пытаюць, ніякага выбару для адказу. На самай жа справе субяседніку не так важны адказ, як узнікшая замінка, зручная для будовы далейшай размовы па-свойму.

Пастка дзевятая: дастаць кліента пытаннямі. Калі скласці камбінацыю з шэрагу такіх пытанняў, то той, хто пытаецца, можа хутка павесці перагаворы да вырашальнага для сябе пытання і тым самым дабіцца, што кліент абавязкова падпіша дагавор. У канцы такога ланцужка пытанняў ідзе прапанова падпісаць дакумент. Такія пытанні трэба з рашучасцю перапыніць. А, памарудзіўшы з падпісаннем, Вы ствараеце зручную для сябе паўзу, і псіхалагічныя пасткі партнёра не праходзяць.

Паводле матэрыялаў замежнага друку.

*Так атрымалася, што ў ваеннае вучылішча лейтэнанты Мікалай Злачэўскі, Алег Зарыла і Яўген Рыбчук прыбылі ў адзін дзень. У новенькай афіцэрскай форме, жыццярадасныя, поўныя славалюбівых планаў. І служыць яны трапілі ў адно падраздзяленне. Равеснікі па ўзросту і аднадумцы па поглядах, маладыя афіцэры хутка зблізіліся і пасябравалі.*

*З таго часу мінулі тры гады...*

# ЧАМУ ЎЦЯКАЮЦЬ ЛЕЙТЭНАНТЫ?

З рапарта аб звальненні, пададзенага старшым лейтэнантам Злачэўскім:"... Мая жонка мае нізкі артэрыяльны ціск і не можа жыць у вільготным клімаце. За два гады сямейнага жыцця яна больш часу вымушана была праводзіць дома, у Кіеве. Маці жонкі нядаўна перанесла цяжкую аперацыю і зараз ёй патрэбна пастаянная ўвага. Сямейныя адносіны складаюцца вельмі цяжка, разбураецца маладая сям'я. Таму лічу немагчымым маё надалейшае знаходжанне на ваеннай службе".

**...Старшы лейтэнант Злачэўскі** нарадзіўся і вырас у Кіеве. Гэтая акалічнасць хутчэй за ўсё і зрабіла ўплыў на далейшы выбар: пасля заканчэння сярэдняй школы па пратэкцыі бацькоў, паважаных у горадзе людзей, Мікалай лёгка паступіў у мясцовае ваеннае вучылішча.

Быў старшым сяржантам, выконваў абавязкі камандзіра групы. Вучыўся нядрэнна. У выпускной атэстацыі ахарактарызаваны станоўча. Камандзіры вызначалі яго дысцыплінаванасць, стараннасць і патрабавальнасць.

Нядрэнна пайшла служба ў яго на новым месцы — у батальёне забеспячэння навучальнага працэсу ваеннага вучылішча, дзе яму даручылі камандаваць узводам. Быў атэставаны на вышэйстаячую пасаду. Дамогся права на паступленне ў ад'юнктуру. Выдатны спартсмен. Карацей, станоўчы ва ўсіх адносінах афіцэр: па-сучаснаму думае, прадпрымальны, ініцыятыўны. Здавалася б, такому ўсе шляхі ў службе адчынены. Але...

— Скажыце, ну які сэнс мне служыць надалей? Што рабіць у арміі?— у сэрцах гаварыў мне Мікалай.— Вы для інтарэсу наведайце наша падраздзяленне, паглядзіце на бытавыя ўмовы: пакой у сямейным інтэрнаце, усе выгоды — на вуліцы. Зразумейце, я хачу жыць лепш і зарабляць больш прама зараз, а не калі-небудзь у будучыні...

**Лейтэнант Я. Рыбчук** — родам з Брэста. У школе сур'ёзна займаўся спортам, мае першы спартыўны разрад па лёгкай атлетыцы і спартыўнаму арыентаванню. У Мінскае ВІЗРВ ППА вымушаны быў пайсці, саступаючы настойлівым просьбам бацькі, які страсна жадаў бачыць адзінага сына толькі афіцэрам.

Спачатку вучоба яму далася цяжка. Прыходзілася шмат займацца самастойна, часта заседжваўся над канспектамі да глыбокай ночы. На трэцім курсе пачала прыгнятаць армейская служба, з'явілася моцнае жаданне кінуць вучылішча. Бацька, дазнаўшыся аб намеры сына, здолеў адгаварыць Яўгена, папрасіў пачакаць да выпуску, а там, маўляў, бачна будзе: атрымаеш дыплом — і ідзі куды хочаш...

У выніку Рыбчуку прыйшлося цярпець яшчэ два гады. У атэстацыйнай ведамасці пераважнай адзнакай была "тройка". Аднак ён спадзяваўся, што ўсё зменіцца да лепшага пасля выпуску. Паслужыць, паглядзіць на жыццё... Верыў, што яшчэ здолее па-сапраўднаму палюбіць службу.

Пры размеркаванні Яўген нават апынуўся ў больш выйгрышным становішчы, чым многія сакурснікі-выдатнікі. Яму было прадастаўлена права выбару добрага месца службы. На жаль, у родны горад размеркавання не было, але затое ўдалося трапіць у ваеннае вучылішча.

— Назначылі мяне тады ў зноў сфарміраванае падраздзяленне. Людзей дасылалі адусюль і, як звычайна бывае, далёка не самых лепшых. Многія салдаты асаблівай дысцыплінаванасцю не вызначаліся, а тут яшчэ прыйшла на ўзбраенне новая тэхніка... Так што давялося спаўна паспытаць нялёгкай лейтэнанцкай долі,— дзеліцца ўспамінамі Яўген.

Хутка на яго звярнулі ўвагу на адной з кафедр вайсковага вучылішча і прапанавалі перайсці ў лабараторыю. Малады афіцэр ахвотна згадзіўся. Перспектыва працы па асноўнай спецыяльнасці яму падыходзіла больш.

Аднак мінулі лета і восень, а пытанне аб пераводзе ўсё не рашалася. А тут яшчэ ўскладніліся ўзаемаадносіны з таварышамі па службе. Лейтэнант Рыбчук, заступаючы на дзяжурства, не пакрываў парушальнікаў дысцыпліны. Дакладваў камандзіру аб усіх выпадках самавольных адлучак і ўжывання спіртных напіткаў. Салдат падобная прамата толькі азлабляла. Афіцэры ж у твар смяяліся і кпілі:"Што ж ты службу, лейтэнант, заваліў?.." Не абыходзілася і без абраз і прамых пагроз у яго адрас.

— Загад аб сваім пераводзе на кафедру чакаў, нібы манны нябеснай. І толькі на новым месцы нарэшце змог уздыхнуць з палёгкай,— шчыра сказаў мне Яўген.— Тады я яшчэ спадзяваўся на лепшае, верыў, што здолею па-сапраўднаму палюбіць армейскую службу.

Трэба адзначыць, што праз некаторы час пасада начальніка аддзялення лабараторы перастала здавацца лейтэнанту Я. Рыбчуку такой ужо прывабнай. Салдат на кафедры не было, таму маладому афіцэру шмат прыходзілася працаваць самому. Перад пачаткам новага навучальнага года на нейкі час ператвараўся ў муляра, фарбаваў столі і сцены. Неадназова прызначаўся старшым каманды па капанню траншэяў для ўкладкі дроту... Падобныя "мерапрыемствы" вялікага энтузіязму не выклікалі. Рыбчук лічыў іх ганебнымі для высокага звання афіцэра.



— Апошняй кропляй, якая перапоўніла чашу майго цярпення, стаў непрыемны выпадак з водпускам. Хацеў выкарыстаць яго ў красавіку, ужо і заяву ў Брэсце з нявестай у загс падалі. Але прыйшлося падпарадкавацца патрабаванню старшых начальнікаў і паехаць у студзені. А як жа вяселле? Далі мне потым дзесяць сутак, што засталіся ад водпуску — сумна скончыў свой расказ Рыбчук.— Пасля вяртання ў вучылішча цвёрда вырашыў звольніцца...

**Старшы лейтэнант А. Зарыла** нарадзіўся і вырас у сонечнай Малдавіі ў сям'і міліцыянера. Яшчэ ў школе вельмі захапляўся радыёсправай. Тады ж вырашыў стаць ваенным. Аднак па сямейных акалічнасцях вымушаны быў паступіць у інстытут. Скончыў першы курс, але даўняе жаданне звязаць свой лёс з арміяй не давала спакою. Так ён стаў курсантам ваеннага вучылішча.

— Ну а вы не збіраецеся зрабіць так, як вашы аднакашнікі?— цікаўлюся ў субяседніка.

— Не. Сваё жыццё на "грамадзянцы" проста не ўяўляю,— адказвае А. Зарыла.

Так жа, як і яго таварышы, ён нядаўна ажаніўся, але жыве ў інтэрнаце адзін. Пакуль жонку прывезці не можа. Сваёй кватэры ў маладога афіцэра няма, а знімаць прыватную ў вялікім горадзе лейтэнанту, шчыра кажучы, вельмі дорага. Аднак Лена зразумела яго і засталася жыць з бацькамі да лепшых часоў.

Алег лічыць, што яго армейская служба складваецца нармальна. Асаблівых цяжкасцей ён не адчувае. Ясна бачыць перспектыву службовага росту на бліжэйшыя тры—чатыры гады — паступіць у акадэмію ці ад'юнктуру. Добра, як кажуць, неабходныя магчымасці для гэтага ёсць, як і шчырае жаданне зрабіць ваенную кар'еру (у самым добрым разуменні гэтага слова).

Вось такі фінал у гэтай гісторыі пра трох сяброў-таварышаў. Так, па-рознаму складаліся іх лёсы. Паспрабуем зразумець гэтую сур'ёзную праблему: чаму працягваюць падаваць рапарты на звальненне з Узброеных Сіл маладыя, перспектыўныя афіцэры?

Сённяшнія лейтэнанты вельмі адрозніваюцца ад сваіх папярэднікаў, якія пачыналі службу 20—30 гадоў таму. У іх ужо зусім іншыя інтарэсы, уяўленні аб службе і абавязку. Зараз практычна перавяліся жадаючыя працаваць суткамі за адну толькі ідэю. Цяперашнія лейтэнанты справядліва патрабуюць нармальных бытавых і жыллёвых умоў, магчымасці паўнацэннага адпачынку пасля напружаных будняў. Дарэчы, незабяспечанасць жыллём маладых афіцэрскіх сем'яў — той самы фактар, што адмоўна ўплывае на іх цікавасць да армейскай службы.

Далёка не апошнюю ролю адыгрываюць, відаць, і матэрыяльныя праблемы. Даўно ўжо не сакрэт, што за сваю інтэнсіўную працу малодшы афіцэр сёння, на жаль, атрымлівае зарплату меншую, чым вадзіцель тралейбуса ці аўтобуса. Ёсць у гэтых лейтэнантаў і больш бачныя прыклады для параўнання. У іх вучылішчы вучацца курсанты і афіцэры замежных краін, якія атрымліваюць у месяц да тысячы даляраў. Так што, як кажуць, каментарыі тут непатрэбныя...

Далейшае падзенне прэстыжу армейскай службы адбірае ў людзей упэўненасць у заўтрашнім дні. Ідзе пераасэнсаванне нацыянальнай ролі Узброеных Сіл.

Сучасныя лейтэнанты не жадаюць быць толькі паслухмянымі, бяссloўнымі выканаўцамі загадаў. Яны патрабуюць паважлівых, чалавечых адносін да сябе.

Вось так і нараджаюцца рапарты са словамі: "Прашу звольніць мяне з радоў Узброеных Сіл..." У выніку ламаюцца лёсы, а армію пакідаюць прафесійныя кадры.

**Аляксей Безвясельны.**

# «Зялёны Гран-Пры»

Вясна — спрыяльны час для закаханых і паэтаў. І канешне, для бардаў. Мабыць, дзякуючы вясне, 10 год таму пад Гародняй, на беразе Нёмана сабраліся людзі з гітарамі, каб праспяваць адно аднаму свае песні. І назвалі гэтую справу — "Зялены Гран-пры", а скарочана — "Зялёнка". І стаў фестываль традыцыйным. А ў гэтым годзе, да таго ж, супаў з рэгіянальным фестывалем, які ў сувязі са зменамі ў "геаграфіі" з поўным правам можна назваць міжнародным: бралі ўдзел барды з Беларусі, прыбалтыйскіх краін, з Расіі. Дарэчы, фестываль адчуваўся ўжо на вакзале: маладыя людзі з заплечнікамі, і — гітары, гітары. Не ведаю, ці вялася падобная статыстыка, але, здаецца мне, адных гітар на "Зялёнцы" было не менш за паўсотню...

Вядомая справа, у наш складаны час арганізаваць і правесці фестываль — задача нялёгкая. Але, здаецца мне, гарадзенскі КСП "Панарама" справіўся на "выдатна".

А ўвогуле, распавядаць пра фестываль аўтарскай песні — справа цяжкая. Тут, як нідзе, лепей раз пабачыць, пачуць, чым сто разоў прачытаць. Але ж, пачнём "па сэнсе": уявіце сабе рэчку Нёман, сярэдзіну мая — акурат 15-е — і шыкоўнейшае надвор'е. Натоўп людзей, мітусня, шум, размовы, спевы — гэта і ёсць тое, што праграма фестывалю сціпла назвала: заезд удзельнікаў, першае праслухоўванне. Вось каму, папраўдзе, прыйшлося папрацаваць. Журы было прадстаўнічым: Алена Казанцава, Уладзімір Галынскі, Уладзімір Барзоў, Ала Бяляўская, Андрэй Міхельсон з Мінска, Аляксандр Іваноў з Калінінграда, Уладзімір Ільін з Санкт-Пецярбурга, Аляксандр Дулаў і Аляксей Бруноў з Масквы. Папрацаваць ім прыйшлося нямала. Пасля папярэдняга праслухоўвання пачалі работу творчыя майстэрні: аўтараў і кампазітараў, выканаўцаў бардаўскай песні. Аддаючы належнае майстэрству выканаўцаў, адзначу ўсё ж, што асабіста ў мяне большую цікавасць выклікала работа аўтарскай майстэрні. Таму размова пойдзе пераважна пра аўтараў тэкстаў і вершаў. Адразу заўважу, што работа творчай майстэрні — гэта не прынароднае вынясенне вердыкту журы і не падзел канкурсантаў на добрых і дрэнных.

Але гэта спосаб "на іншых паглядзець, сябе паказаць", гэта і размовы пра песню і паэзію, і ўвогуле "за жыццё". І, вядома, спрэчкі і адкрыцці. Дарэчы, для мяне адкрыццём з'явілася трыо "Шын". Барыс Бляхман, вершы, музыка, гітара, Аляксандр Беркман, вершы, гітара, Эліна Мількіна, скрыпка. Свой жанр яны адзначаюць як "яўрэйскую песню на рускай мове". Здаецца мне, у нас на Беларусі (а трыо "Шын" прыехала з Віцебска) нічога падобнага яшчэ не было. Забягаючы наперад, скажу, што гэтыя маладыя людзі сталі лаўрэатамі фестывалю.

Але вернемся ў майстэрню. Журы, дасціпнае і строгае, усё — як мае быць, не хваліла нікога. Я назвала б гэта ўсеагульнай прышчэпкай ад "зорнай хваробы". Але і канкурсанты, і публіка былі адпаведныя. Як зазначыла ўваходзіўшая ў журы Алена Казанцава: гэта вельмі важна — паслухаць заўвагі, каб канчаткова пераканацца ў сваёй слушнасці. Зразумела, што і лаўрэатам "даставалася" не меней, а то і болей, чым астатнім.

Пад вечар майстэрні закончылі сваю работу. А калі амаль змерклася, пачаўся фінальны канцэрт. Адзначу, што адзіны на фестывалі аўтар, што прадставіў беларускія песні,— Света Мядзведзева з Мінска — "прайшла" у фінал, нягледзячы нават на тое, што з пяці членаў журы секцыі аўтараў беларускую мову крыху ведаў толькі адзін. Але песня "Хай жаль не пакіне мяне" пераадолела "моўны бар'ер".

*Хай жаль не пакіне мяне,*
*І я з дзіўнай сілай у кволых запясцях*
*Прымушу паверыць: пустэча напасці*
*Твой свет абміне і твой мір абміне.*
*Хай жаль не пакіне мяне...*

Члена журы Аляксандра Дулава з Масквы прыемна ўразіў той факт, што беларуская бардаўская песня існуе, і ўзровень яе не ніжэйшы за рускамоўную.

Калі ж казаць пра агульны ўзровень удзельнікаў "Зялёнкі", то ён мне падаўся досыць раўнамерным: не было ні бясспрэчных правалаў, ні відавочных лідэраў. Але адметныя аўтары былі. Сяргей Краснабарод прадставіў песню "Жаданне быць чорным",— нетрадыцыйны для бардаўскай песні блюз. Нетрадыцыйнай па форме падачы, хаця і досыць звычайнай па тэксце, была і "Легенда" Сяргея Краўчука з Віцебска. Я б назвала гэты твор хутчэй вершам, які чытаецца пад музыку. Але нестандартнасць выканання дае магчымасць спадзявацца, што праз пэўны час імя гэтага аўтара і яго новыя, яшчэ лепшыя песні, будуць добра вядомыя слухачам.

Дарэчы, работа творчай майстэрні, а затым фінальны канцэрт паказалі важнасць выканаўчага майстэрства: добры вакал і акампанемент часам "выцягвалі" пасрэдныя, а то і нават зусім слабыя тэксты. Але на прыкладзе таго ж трыо "Шын", у якім аўтар музыкі Барыс Бляхман не мае музычнай адукацыі, пераканалася, што і гэта — справа нажыўная. Дарэчы, і журы, і слухачы адзначалі амаль прафесійны музычны і выканаўчы ўзровень трыо.

Падалася вельмі цікаўнай і творчасць мінскага барда Сяргея Шпілеўскага. На жаль, меркаванні журы не зусім супалі тут з маімі меркаваннямі. Але, я думаю, у беларускіх слухачоў яшчэ будзе магчымасць ацаніць яго песні.

У падобных фестывалях ёсць яшчэ адзін маленькі "плюс": зрэдку надараецца, пазнаёміўшыся з бардам, зразумець, што ужо ведаеш яго па песнях. Такім "адкрыццём" для мяне стаў Аляксандр Лапацін з Віцебска.

Яшчэ адным адкрыццём, думаю, што не толькі для мяне, з'явіўся аўтар з Санкт-Пецярбурга Толік Ксенафонтаў (Кай). Мне давялося ўпершыню пачуць яго з пару тыдняў таму на "Вясеннім зоркаплюі", што прайшоў у Анусіна пад Мінскам. Думаю, што гэты бард не застанецца па-за ўвагай слухачоў.

А вось лаўрэата "Зялёнага Гранпры" Аляксандра Баля з Магілёва беларускія аматары аўтарскай песні ўжо ведаюць. Зусім нядаўна з'явіўшыся ў полі зроку, а дакладней, у полі слыху, ён набывае ўсё большую папулярнасць.

Двух пераможцаў мы ўжо назвалі: гэта Аляксандр Баль і трыо Барыса Бляхмана "Шын". Тым прыемней мне прадставіць лаўрэата фестывалю, аўтара музыкі Вольгу Полазеву з Гародні. Не думаю, што зразумець, пераасэнсаваць і данесці да слухача чужыя вершы праз сваю музыку і сваё выкананне лягчэй, чым напісаць цалкам "сваю" песню. Вользе выдатна ўдалося зрабіць гэта, узяўшы пры тым не самы лёгкі верш не самай простай паэткі — Марыны Цвятаевай.

Несправядліва будзе не прыгадаць імёны лаўрэатаў-выканаўцаў: гэта Маша Култаева з Таліна, Уладзімір Еўмянчук з Гародні і трыо "Ветразь" з Мінска.

Аднак наяўнасць пераможцаў яшчэ не сведчыць пра наяўнасць прайграўшых."Зялёны Гран-пры", у першую чаргу, гэта свята песні, затым ужо конкурс. І не думаю я, што засталіся якія б то ні было крыўды нават у тых, хто не прайшоў адборачны тур. Падаецца мне, калі "Зялёнка" будзе праводзіцца ў наступным годзе, то не стане менш ні гасцей, ні ўдзельнікаў. Хоць, канешне, бардаўская песня перажывае зараз не лепшыя свае часы. Клубы самадзейнай песні пакрысе гінуць. Прычына зразумелая — недахоп сродкаў: справа гэтая некамерцыйная. Праўда, што клубу трэба? Памяшканне, гітары, сякая-такая апаратура. Ды толькі дзе ж той спонсар? Добра, што ўдалося знайсці дапамогу для правядзення гэтага фестывалю. Але ізноў жа: сумяшчэнне "Зялёнкі" і рэгіянальнага фестывалю — відавочна, не ад добрага жыцця.

Але пакінем сумныя думкі. Фестываль — заўжды свята. Тым больш, што рускамоўная бардаўская песня мае багатыя традыцыі, прыглядзецца да якіх не шкодна было б і беларускамоўнаму "каэспэшнаму" асяроддзю. Бо пакуль што беларускамоўная аўтарская песня існуе больш у канцэртна-эстрадным варыянце. Гэта не дрэнна і не добра — гэта рэальнасць. Бо нават Аршанскі фестываль хутчэй нагадваў канцэрт на прыродзе. А фестывалі тыпу "Зялёнкі" для бардаўскай песні вельмі важныя менавіта ў плане магчымасцяў адкрыцця новых імёнаў, жывога кантакту без падзелу на "залу" і "сцэну", параўнання і ўзаемаацэнкі. Думаю, што правядзенне падобнага беларускамоўнага фестывалю дало б штуршок развіццю як беларускай бардаўскай песні ў цэлым, так і асобным пачынаючым аўтарам. Тут, праўда, ёсць яшчэ адна тонкасць: пакуль няма беларускамоўнага КСП, ёсць адзінкі, прычым вельмі рознапланавыя. А можа, і наканаваны беларускай самадзейнай песні своеасаблівы шлях?



Вольга Акуліч.

Калі года паўтара таму "Чырвонка" распачала знаёмства са святарамі розных рэлігійных канфесіі, якія дзейнічаюць у Беларусі, мы не маглі і прадбачыць, наколькі поўна нам удасца прадставіць беларускае рэлігійнае жыццё. Праваслаўе, каталіцтва, паганства... Сёння нашыя госці — святары дзвюх канфесій: беларускага уніяцтва і беларускага аўтакефальнага праваслаўя. Іх думкі цікавыя ўжо тым, што яны розныя, але ў абедзвюх гутарках гучыць заклапочанасць лёсам Беларусі, ейнага духоўнага адраджэння.

# Перспектывы праваслаўнай аўтакефаліі

**Пад час візіту першаіерарха Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ) архіепіскапа Мікалая нашаму карэспандэнту давялося сустрэцца і пагутарыць з уладыкам.**

**– Вашае праасвяшчэнства, з якой мэтай Вы прыехалі на радзіму, дзе не былі, здаецца, з паўстагоддзя? Якія Вашыя ўражанні?**

— Асноўная мэта, відаць,— дабрачынная місія. Бо я ж яшчэ ўзначальваю ў Таронта Фонд БАПЦ "У дапамогу ахвярам Чарнобыля". Разам са мною прыехаў і дырэктар іншай арганізацыі — Канадыйскага дабрачыннага фонду дапамогі ахвярам Чарнобыля ў Беларусі з сядзібай у Атаве, спадар Мікола Ганько. Ён жа — старшыня Згуртавання беларусаў Канады. Сродкі на дапамогу ўжо даўно збіралі і канадыйскія беларусы, і іншыя канадыйцы, але не было магчымасці перадаць іх. Праблема заключалася не ў цяжкасці паштовых пераводаў, а ў ненадзейнасці атрымальнікаў. Да нас жа даходзілі весткі, як на тыя чарнобыльскія грошы бавіцца партыйная наменклатура, газеты, тэлебачанне нямала падавалі ў нас інфармацыі пра іхнія "чарнобыльскія" круізы, бізнесавыя круцялі, розныя забавы ды асабістае тарбахватцтва. Мы вымушаны былі дачакацца моманту, каб асабіста перадаць людскія ахвяраванні ды не карміць гэты фэст пад час чумы. А перадаць, дзякуй Богу, цяпер ёсць каму. Праца БНФ "Адраджэньне" ў гэтым накірунку выклікала бясспрэчны давер. Менавіта Фронт зрабіў магчымым наш прыезд сюды, менавіта праз яго сабраныя сродкі пойдуць на дапамогу простым людзям. І з гэтага я перайду да вашага пытання пра ўражанні. Радуе, што народ устае з каленяў. Аб'яднаўся ў Фронт, у іншыя суполкі. Хоць наменклатурная ўлада яшчэ не сышла на нуль, але і народ мае сваё слова, адраджаецца ягоная мова. Асабліва аптымізм усяляе моладзь. І ёсць надзея на добрую будучыню, бо не зусім страчана ў беларускіх людзях пачуццё дбайнасці, адказнасці, працавітасці. Праўда, калгаснае спадзяванне, што нехта прыйдзе і ўсё зробіць, паспела таксама шырока ўкараніцца: крыўдна было бачыць, што няма каму паклапаціцца пра разваленыя платы, разбітыя дарогі... Затое ў іншых умовах, пры іншай уладзе і беларус іншы. Хоць бы на той жа Беласточчыне.

**– Але Вы, уладыка, у першую чаргу рэлігійны дзеяч. А як Вы ставіцеся да ідэі аўтакефалізацыі праваслаўнай царквы ў нас, у Беларусі, тым больш, што гэта ўжо практычна адбылося ва Украіне? Я чуў, што Вы сустракаліся з архіепіскапам Філарэтам; ці не было з ім гаворкі пра ўз'яднанне беларускіх праваслаўных на ідэі адраджэння? Маю на ўвазе ўз'яднанне БАПЦ і Беларускага экзархату.**

— Гэта, бадай, немагчымае, пакуль тутэйшая царква не стане незалежнай, не вернецца да роднай мовы. Але я не рэвалюцыянер. Я прыхільнік эвалюцыйнага шляху развіцця. Калі гаварыць пра сітуацыю наогул, дык Беларуская аўтакефальная царква ўтварылася на ідэі незалежнасці ад царквы суседняга народа, бо хоць царква — не палітычная структура, але палітычны царкоўны ўплыў беларусы заўсёды моцна адчувалі як з усходу, гэтак і з захаду. Відаць, з гэтых жа прычын і Руская праваслаўная царква адзалежнілася ад улады Візантыйскага праваслаўя, таму няма чаму дзівіцца, што гэтым шляхам ідзе кожны народ, які дбае пра сваю духоўнасць. І БАПЦ, зазначу, стварыла не эміграцыя выключна ў замежжы. БАПЦ існавала тут, на радзіме, яшчэ ў 20-х гадох. Нам нельга забываць пра лёс архіепіскапа Мельхісэдэка, стваральніка БАПЦ, які сам па сабе паказвае, чым адрозніваецца Беларускае аўтакефальнае праваслаўе ад Беларускага праваслаўя пад уладай Рускага сінода: калі дзяржаўная палітыка вымушаная была ўлічваць адраджэнцкія працэсы, Мельхісэдэку было дазволена беларусізаваць царкву. Калі ж палітыка змянілася, усіх надта адданых свайму народу святароў сінод раскідаў удалечыні ад радзімы. А некаторыя былі і фізічна знішчаныя. Таму якая можа быць гаворка пра ўз'яднанне? Іншая справа, калі беларускія вернікі тут самі адчуюць патрэбу ў слове Божым на роднай мове. Архіепіскап Філарэт, як я зразумеў з гутарак з ім, па сутнасці, не супраць беларусізацыі царквы, хоць сам ён рускі, але часам і па-беларуску можа гаварыць, ды вось спасылаецца на тое, што ад саміх вернікаў не чуваць ініцыятывы наконт беларусізацыі.

**– Мне здаецца, што гэта ўсё адно, як распісацца ва ўласнай няздольнасці царквы валодаць духам народа...**

— Магчыма, праблема яшчэ больш глыбокая. І пра гэта я размаўляў са спадаром Станіславам Шушкевічам. Бо гэта не рэлігійная праблема, а хутчэй дзяржаўная. Менавіта тое, што царква валодае духам народа, скарыстоўваюць палітычныя сілы. Як вы мяркуеце, адкуль у Беларусі з'явіліся сотні тысяч палякаў, хоць гісторыя не падае ніводнага факта масавага перасялення палякаў у Беларусь? А гэта, бадай, праца каталіцкага касцёла, які стварыў тых палякаў з беларусаў. Дзяржава, безумоўна, не павінна ўмешвацца ў рэлігійнае жыццё, але абараніць сябе ад чужародных палітычных уплываў праз царкоўныя інстанцыі абавязана. І царква, і касцёл могуць мець месца ў Беларусі, калі не будуць перашкаджаць Беларускай дзяржаве выхоўваць беларускіх патрыётаў. Цяперашняя ж сітуацыя такая, што ніводная з дзеючых у Беларусі канфесій не прымае актыўнага ўдзелу ў духоўным адраджэнні нацыі. Хіба што пачынаецца нейкі зрух знізу, утвараюцца першыя нацыянальныя суполкі вернікаў.

**– А які ўплыў мае БАПЦ сярод беларускай эміграцыі?**

— БАПЦ рассеяна ледзь не па цэлым свеце: мы маем свае парафіі ў Канадзе, ЗША, Аўстраліі. Бадай, каб беларусы не мелі сваёй царквы там,не ішло б гаворкі і пра актыўнае беларускае жыццё. Бо эміграцыя з Беларусі ў Амерыку пачалася яшчэ ў мінулым стагоддзі, але растварылася сярод палякаў, украінцаў, расейцаў. Пасляваенная эміграцыя пакінула след менавіта дзякуючы царкве. І адным з першых ролю царквы вызначыў наш вядомы дзеяч, адданы, свядомы беларус доктар Вінцэнты Жук-Грышкевіч. Ён сам быў каталікам, але казаў яшчэ тады, пасля вайны: "Вас тут бальшыня праваслаўных, таму трэба адбудоўваць тут Беларускую аўтакефальную праваслаўную царкву, паклапаціцца пра навучанне і асвячэнне сваіх святароў". З ягонай дапамогай і я тады пайшоў вучыцца ў духоўную семінарыю. Дарэчы, вось тая першапачатковая традыцыя талерантнасці жыве і цяпер. І старая эміграцыя, і пазнейшыя плыні (з падпольскай Беласточчыны, з былога СССР), да якой бы канфесіі яны ні належалі, усе гуртуюцца вакол БАПЦ, бо гэта — асяродак беларускай духоўнасці на чужыне. Маючы такі асяродак, беларусы хутчэй ужываюцца ў чужое асяроддзе. Нас успрымаюць ужо не як чужынцаў, а як прадстаўнікоў пэўнай культуры, якія ўзбагацілі этна-культурную мапу Канады, усёй Амерыкі. Мне здаецца, каб і тут царква была такім асяродкам, дык на роднай зямлі тым больш шпарка рушыла б справа беларускага адраджэння.

Галоўнае, каб людзі, адухоўленыя гэтай ідэяй, аб'ядноўваліся вакол яе. Гэта — зарука далейшых змен, і тут я, наадварот, не песімізмам прасякнуты на радзіме, а аптымізмам. Многія святары, з якімі я сустракаўся, цудоўна валодаюць беларускай мовай. Вось толькі ўвесці яе ў святыні ім не дазваляе пэўная субардынацыя: хоць і ёсць вусная згода ўладыкі Філарэта, але няма пісьмовага загаду. Многія святары, як я адчуў, толькі і чакаюць дабраславення Філарэта ў гэтай справе. Але там, дзе вернікі гуртуюцца ў нацыянальныя суполкі, ім лягчэй удаецца дамагчыся і сталых богаслужэнняў на роднай мове. Тут, у Менску, я пазнаёміўся з дзеячамі Беларускага праваслаўнага брацтва. Бадай, гэта і ёсць пачатак аўтакефальнай царквы на радзіме. З гісторыі вядома, што роля такіх брацтваў надзвычайная.

**– Вы, пэўна, чулі, што многія маладыя беларускія вернікі гуртуюцца ва уніяцкія суполкі, ратуючыся ад уплыву "польскай" і "рускай" веры?**

— Чуў. І мне здаецца, што вынік тут можа быць адзін: змена чужынца на беларускім карку. Унія, залежная ад Рыма, для нас зусім не лепшая залежнасці ад Масквы. Нам трэба думаць не пра змену рэлігіі, а пра вяртанне роднай мовы ў нашыя святыні.

**– Але ж дабраславення Філарэта пакуль усё няма, "польскі" касцёл таксама застаецца пераважна польскім. У што ж верыць беларусу?**

— Пры сустрэчы з мітрапалітам Філарэтам я пастараўся грунтоўна прадставіць нашыя пазіцыі, і, здаецца, яны знайшлі разуменне. Мяркую, словы мітрапаліта Філарэта не былі пустым гукам, і выглядае на тое, што нейкі зрух тут пачнецца.

Гутарку вёў
Вітаўт Мартыненка.



Фота У.Панады.

# Унія — рэлігія маладых

**Рэлігія, яе стан у Беларусі заўсёды прыцягвалі пільную ўвагу не толькі рэлігійных дзеячаў, але і пісьменнікаў, навукоўцаў, філосафаў. Яшчэ ў дваццатыя гады беларускі філосаф Ігнат Канчэўскі адзначаў, што наша зямля стала месцам сустрэчы Усходу і Захаду, месцам сутыкнення ўсходніх і заходніх рэлігійных плыняў. У гэтым сіла, але ў гэтым і наша слабасць.**

**З-за неспрыяльных гістарычных умоў, якія склаліся на працягу апошніх двухсот гадоў, у Беларусі толькі зараз робяцца крокі па адраджэнню сапраўднай, беларускай па духу рэлігіі. І гэта нягледзячы на тое, што праваслаўнае і каталіцкае веравызнанні дэкларуюць сваю прыхільнасць ідэі нацыянальнага Адраджэння Беларусі. Справа ў тым, што дзеячамі названых канфесій у гэтым кірунку робіцца, мякка кажучы, няшмат.**

**Усё часцей мы можам пачуць нават пра адваротныя факты: многія святары вядуць антыбеларускую агітацыю, выступаюць супраць суверэнітэту Беларусі, адмаўляюць ёй ва ўласнай гісторыі, супраціўляюцца ўвядзенню беларускай мовы ў набажэнства, ігнаруюць беларускія традыцыі іканапісу, царкоўнага дойлідства і музыкі...**

**Разам з тым мацнее голас свядомай грамадскасці маладых вернікаў, якія пратэстуюць супраць палітычнай накіраванасці клеру, што ўсё больш выразна акрэсліваецца ў дзейнасці некаторых канфесій у Беларусі. І гэта прымушае іх аб'ядноўвацца ў межах гэтых канфесій у грамадскія суполкі з мэтай беларусізацыі царкоўнага жыцця.**

**Фарсіраваць гэту дзейнасць прымушае і тое, што з'яўляюцца маладыя і маладзёжныя рэлігійныя абшчыны, якія свядома культывуюць патрыятызм, змагаюцца за ўвядзенне роднай мовы ў набажэнства. Да такіх канфесій, вернікі якіх адраджаюць менавіта нацыянальную царкву, адносіцца грэка-каталіцызм, ці інакш – уніяцтва.**

**Нягледзячы на тое, што уніяцтва ў Беларусі амаль поўнасцю было знішчана, гэтая канфесія даволі хутка адраджаецца. Цікава, што асноўным папаўненнем грэка-каталіцкіх абшчын становіцца моладзь. Гэта дае безумоўныя перспектывы развіццю уніяцтва ў Беларусі. З пытаннем, у чым бачацца гэтыя перспектывы, звяртаемся да святара грэка-каталіцкай канфесіі айца Яна Матусевіча.**

— Калі гаварыць пра перспектывы, дык яны толькі зараз і пачынаюць выяўляцца. У друку паведамлялася, што ў Менску 14 лістапада была зарэгістравана першая грэка-каталіцкая абшчына. Але і дагэтуль мы не маем памяшкання, дзе можна было б збірацца, правіць службу, маліцца. Таму і прыходзіцца праводзіць свае службы ў філіяле музея М.Багдановіча, што па вуліцы Рабкораўскай. Дарэчы, службы адбываюцца адзін раз на тыдні — па нядзелях а 9 гадзіне раніцы. Так што нашы перспектывы звязаны найперш з атрыманнем памяшкання. І ўсё ж мы запрашаем да нас усіх, хто можа і жадае прыйсці, адчуць Хрыста праз унію. Ніхто не будзе абыдзены ўвагай.

**– Чытачам, пэўна, будзе цікавы Ваш асабісты шлях да веры, да уніяцтва.**

— Ведаеце, мая сям'я, хоць была веруючай (у ёй былі і каталікі, і праваслаўныя), але да выбрання веравызнання ставілася лаяльна, без залішняга фанатызму. Гэта не адштурхнула мяне ад рэлігіі, наадварот, прымушала думаць, надавала разважлівасці. Наведваў я дзякуючы сваёй цётцы царкву ў Заслаўі. А з бабкай хадзіў у касцёл у Красным Маладзечанскага раёна. Так пачыналася мая рэлігійная талерантнасць. Параўноўваў абрадавасць, у чым больш схіляўся да каталіцкага веравызнання. Тут не было мітусні, гандлярства ў храмах. Апошняе мне вельмі не падабалася. Нават Ісус выганяў гандляроў з храма.

Гэтыя думкі і прывялі мяне да таго, што я стаў каталіцкім святаром. За адзінаццаць гадоў майго служэння настаяцелем у адным з касцёлаў у Гродзенскай вобласці мне часта даводзілася сустракацца з меркаваннем, што, калі ты католік, дык значыць "паляк", а калі праваслаўны — дык "рускі". У мяне ўзнікала законнае пытанне: а дзе ж месца беларусаў? Дзе беларуская вера? Бадай, сёння гэтае пытанне задаюць сабе многія маладыя адраджэнцы.

**– Напэўна, на яго памагла вам адказаць грэка-каталіцкая вера? Калі можна, коратка пра унію, пра ейнае становішча паміж іншымі хрысціянскімі веравызнаннямі.**

— Грэка-каталіцкае веравызнанне на тэрыторыі Беларусі аформілася пад час Берасцейскай царкоўнай уніі ў 1596 годзе. Некаторыя думаюць, што унія (альбо грэка-каталіцызм) гэта нейкая асаблівая рэлігія. Не, гэта не так. Мы — каталікі, толькі ўсходняга абраду. З самага пачатку грэка-каталіцкія святары ў сваіх набажэнствах карысталіся народнай мовай, у адрозненне ад каталікаў лацінскага абраду, у якіх мовай набажэнства была лацінская, альбо ад праваслаўных, дзе для набажэнстваў карысталіся стара-балгарскай ці царкоўна-славянскай мовай.

Пасля II Ватыканскага сабора было пацверджана права на карыстанне роднай мовай у набажэнствах. І зараз Папа Іаан Павел Другі станоўча ставіцца да гэтай тэндэнцыі, але патрабуе не забываць і лацінскую мову.

Дык вось, грэка-католікі ў розных краінах карыстаюцца роднай мовай у набажэнстве, маюць сваю абраднасць. Ёсць і ўкраінскі, і копцкі, і армянскі абрады... Сам я карыстаюся беларускай мовай, магу адпраўляць службу па-ўкраінску, зразумела, на лацінскай, англійскай, польскай, італьянскай...

Увогуле, гэта не адпавядае прынцыпу хрысціянскай справядлівасці, калі з дапамогай царквы народу даводзяць, што яны — не тыя, хто ёсць (або палякі, або рускія, у залежнасці ад веравызнання). Такіх выпадкаў шмат, і яны выклікаюць у нас трывогу.

Таму мы, прыхільнікі грэка-каталіцызму, ставім на мэце стварэнне нашай, сапраўды народнай беларускай царквы. Нас вельмі цешыць, што да уніі звяртаецца свядомая беларуская інтэлігенцыя, шмат моладзі. Увогуле, моладзь не толькі складае вялікую частку нашых суполак, а бярэ на сябе частку арганізацыйнай і навуковай работы па адраджэнню уніяцкай царквы. Сярод нашых вернікаў ёсць і маладыя навукоўцы, літаратары, мастакі, студэнты. Вось яны свой імпэт і талент замалада ахвяруюць на святую справу адраджэння уніі.

Асабліва хочацца адзначыць нашых маладых выдаўцоў — У.Дубянецкага, К.Мацкевіч, С.Абламейку. Дзякуючы іхнім самаахвярным намаганням пабачылі свет два нумары нашага рэлігійнага часопіса "Унія". У хуткім часе чытачы змогуць пазнаёміцца і з наступным нумарам "Уніі".

Вельмі добра, што моладзь такім чынам сумяшчае ў сваёй душы бессмяротнае вучэнне Хрыста і прагу да гісторыі продкаў, традыцый, мовы, да адраджэння сваёй нацыянальнай рэлігіі. Для пашырэння уніі сярод моладзі плануем у хуткім часе адкрыць катэхічныя школы, выдаваць дзіцячую рэлігійную літаратуру на беларускай мове. Але гэта пакуль што планы. Спадзяюся, не такія далёкія.

**– Шаноўны айцец Ян! Некалькі слоў пра сучасны стан грэка-каталіцызму ў Беларусі, пра вашыя праблемы і спадзяванні.**

— Па сутнасці, сучаснае адраджэнне грэка-каталіцкай веры ў Беларусі пачалося ў міжваенны час, але было гвалтоўна перапынена. І вось апошнія два гады мы зноў заняліся гэтай складанай працай.

Грэка-каталіцкія суполкі з'явіліся ўжо ва ўсіх абласных гарадах: Менску, Гомелі, Гародні, Віцебску, а таксама ў Полацку, Маладзечне, Оршы, Баранавічах. Не так даўно першую суполку ў Менску зарэгістравалі афіцыйна.

На тэрыторыі Беларусі маем пакуль што пяць духоўных асоб: тры святары і два дыяканы. Як вы, напэўна, ведаеце, мы падпарадкоўваемся Кіева-Галіцкай грэка-каталіцкай метраполіі. Але гэта часова, каб у цяперашняе міжуладдзе быць недзе зарэгістраванымі, каб была магчымасць для працы на ніве беларускай грэка-каталіцкай царквы.

Зараз вось накіравалі ліст Папе Рымскаму ад дзвюх тысяч вернікаў уніятаў, ад грэка-каталіцкага духавенства Беларусі з просьбай станоўча паставіцца да адраджэння уніяцтва ў Беларусі, каб сваёй воляй Папа ўтварыў адміністрацыю і прызначыў нам біскупа. Гэта быў бы далейшы крок да адраджэння нашай веры на беларускай зямлі.

Вельмі важна і тое, што ў такім разе мы змаглі б больш накіроўваць на вучобу маладых грэка-католікаў. Хоць і зараз нашыя пасланнікі вучацца ў рэлігійных навучальных установах Лондана, Рыма, Варшавы, Львова, Любліна.

Мы маем патрэбу ў большай колькасці святароў. Калі яны з'явяцца на зямлі Беларусі, дык і святая справа уніі пойдзе больш упэўненымі крокамі.

Асабіста я веру ў тое, што так яно і будзе. Гэта ўпэўненасць у мяне з'явілася пасля наведвання Ватыкана, дзе мяне прыняў сам Папа Рымскі Іаан Павел Другі, які не толькі выслухаў мяне, але і з разуменнем паставіўся да нашых канфесійных праблем.

Гутарыў Анатоль Мяльгуй.



На ЗДЫМКУ: айцец Ян Матусевіч (злева) і ксёндз Каўнаскай курыі Альфонсіс адпраўляюць імшу ў памяць ахвяр сталінскага тэрору ў Ігумене.



# ГЕРАЛЬДЫЧНЫЯ ГУЛЬНІ

*Савецкі Саюз распаўся. Ідэалогія будаўнікоў "светлага камуністычнага будучага" пацярпела крах. Грамадства мала-памалу адвыкае ад дагматаў, стэрэатыпаў і манеры паводзін, якія ўбіваліся на працягу дзесяцігоддзяў. Яго грамадзяне пачынаюць успамінаць пра нятленнае, спакавечнае. Усё часцей і часцей яны звяртаюцца да мінулага, да спрадвечных каштоўнасцей.*

Беларусь у рэшце рэшт стала незалежнай краінай. Яе кіраўнікі нарэшце ўсвядомілі, што ў нас існуе свой старажытны герб "Пагоня". Пасля доўгіх дэбатаў герб гэты быў зацверджаны на пасяджэнні Вярхоўнага Савета. У хуткім часе пасля таго Мінскі гарсавет прыняў пастанову аб вяртанні гораду яго старажытнага герба. Газета "Добры вечар" з першага свайго нумара змясціла яго выяву ля сваёй назвы. Дарэчы, зрабіла яна гэта задоўга да прыняцця вышэйназванай пастановы. Здаецца б, усё добра. Ёсць у горада герб, ёсць агульнавядомая яго выява — тая, якая змешчана ў "Добрым вечары" і аднoўлена на фасадзе касцёла Сымона і Алены. Узорам жа для яго паслужыў малюнак з кнігі А. Цітова "Гарадская геральдыка Беларусі".

Але "гарадскіх галоў" (як казалі калісьці нашы продкі), гэта значыць членаў гарсавета (як называюць іх зараз), ахапіў сверб сказаць свае слова і ў гэтым пытанні. Іх, пэўна, завідкі бяруць пры ўспаміне аб тым, як Вярхоўны Савет без усялякіх спрэчак і "барацьбы думак" зацвердзіў той эталон "Пагоні", які пажадаў. Члены гарадскога Савета рашылі таксама праявіць самастойнасць. Яны вельмі хутка прынялі пастанову аб вяртанні старога герба. Але выяву яго прыдумалі сваю. І змясцілі гэты герб на сцяне ў зале пасяджэнняў. Хуткасць гэта неабходна была, пэўна, яшчэ і для таго, каб закрыць пляму, якая ўтварылася на тым месцы, дзе раней вісеў профіль У.І.Леніна. Распрацоўвалі гэты варыянт скульптар Валяр'ян Янушкевіч і сябры пастаяннай камісіі Мінгарсавета па культуры, ахове і зберажэнні гісторыка-культурнай спадчыны. Дзева Марыя на ім змешчана на авальным шчыце (у геральдыцы такі шчыт называецца італьянскім). Наогул, герб гэты зроблены так, што нагадвае вырабляемыя тым-сім з саматужнікаў-кааператараў дэкаратыўныя насценныя талерачкі з гіпсу. Нічога дрэннага не скажу пра мастака. Ен з вялікім майстэрствам выканаў тое, аб чым яго папрасілі шматшаноўныя сябры пастаяннай камісіі. Старшыня гэтай камісіі кандыдат гістарычных навук У.Чарняўскі выказаў свае погляды на старонках газеты "Вячэрні Мінск": "...герб Мінска, змешчаны ў зале пасяджэнняў гарсавета, упісаны ў італьянскі шчыт. Гэта вымагае рэнесансны характар выявы. Размяшчэнне яго на варажскім або германскім шчыце (маюцца на ўвазе назвы геральдычных выяў шчытоў. — М.Б.) вымусіла б мастака надаць элементам герба іншыя абрысы. І характар выявы выбраны невыпадкова: сёння Беларусь перажывае сваё трэцяе Адраджэнне". Можна б было не звярнуць увагу на гэтыя ягоныя словы аб якімсьці міфічным "трэцім Адраджэнні", але ж далей шаноўны У.Чарняўскі сцвярджае, што ў геральдыцы, "...якая развіваецца па старых навуковых правілах, усё між сабою цесна звязана". Дык дзе ж тыя строгія навуковыя правілы? Геральдыка мае цвёрда ўсталяваныя каноны пабудовы герба і яго састаўных частак. Як слушна заўважыў на старонках той жа газеты А.Цітоў (адзін з вядучых спецыялістаў па гэтай самай навуцы ў нашай рэспубліцы): "Калі ідзе справа аб выхаванні гісторыяй і аб яе ўшанаванні, неабходна браць у якасці зыходнага матэрыялу тыя аўтэнтычныя старажытныя помнікі, якія захаваліся на сёння, а не самазацвярджацца, вынаходзячы ровар". Ён падкрэслівае: "Мадыфікацыя, прапанаваная В.Янушкевічам, ніякага дачынення да простай геральдычнай перайма́льнасці не мае...". Асабліва яго незадавальненне выклікала выява дзевы Марыі. Ён слушна заўважыў: "Ні на адной са старажытных мінскіх пячатак (іх выяўлена 5. — М.Б.) панна Марыя не боўтае ў паветры босымі нагамі (!), як гэта зроблена на "гербе" ў зале пасяджэнняў гарсавета.



Минскъ.

Згодны з гэтымі словамі. Але заўважу, што паважаны А.Цітоў сам дапусціў памылку пры аднаўленні гэтага герба. Не ведаю, як склалася, што на выяве герба Мінска, які змешчаны ў яго кнізе, намаляваны толькі чатыры анёлы. Чаму ў сваім артыкуле "Пячатка і герб Мінска XVI—XVIII ст." ("Помнікі гісторыі і культуры Беларусі". 1986 г.) з тэксту прывілея, які быў атрыманы 12 студзеня 1591 года, аўтар прывёў толькі словы "...падаем им герб да печати местное на ратуш фикгуру внебовзятья (узнясення. — М.Б.) панны Марыи... которое вжо они за герб в печати местной вечне ужываюти... мают". Пры гэтым цытаванні былі выкінуты некалькі вельмі важных слоў. У "Полном собрании законов Росийской империи" аб гэтым гербе гаворыцца: "...дан отъ Польскаго короля, Сигизмунда, въ 1591 году, Генваря 12 дня, герб изображающий: в голубом полъ, Пресвятую Дъву в сиянии окруженную шестью ангелами". Звярніце ўвагу — шасцю анёламі. Далей у ім гаворыцца: "Сей гербъ оставляется безъ перемѣны: а для означения присоединениия и подданства сего края, къ Россійской Империи, изображается Государственный ея гербъ, то есть, двуглавый орелъ, на груди же его положенъ, показанный города Минска, герб". Герб гэты быў зацверджаны царом 22 студзеня 1796 года. Тлумачэнне, чаму менавіта такім была выява Мінска ў тыя часы, даецца ў артыкуле А.Пякарскага "Гербы былых намесніцтваў, губерняў і іх цэнтраў" (Помнікі гісторыі і культуры, 1975 г. № 3). У ім гаворыцца: "Двухгаловага арла нельга было змясціць (як у раней зацверджаных полацкіх і магілёўскіх гербах) у верхняй частцы шчыта, г.зн. над боскай маткаю; таму шчыт з яе адбіткам "положен" на грудзях арла, дзе звычайна быў маскоўскі герб з адбіткам "Георгія-перамоганосца". Дадам, што менавіта гэты герб мелі гузікі, якія нашываліся на мундзірах мінскіх чыноўнікаў. Сведчанне аб гэтым сустракаецца ў артыкуле вядомага калекцыянера М.Бекцінеева: "Губернскія гузікі"("Помнікі гісторыі і культуры Беларусі". 1986. № 2). Заўважу, што царскія чыноўнікі наогул вызначаліся сваёй пунктуальнасцю. Калі ж гэта датычалася якога-небудзь герба альбо радавода, то тут роўнымі ім маглі быць хіба што іх нямецкія калегі.

Хто-небудзь з чытачоў можа сказаць: "Падумаеш, герб. Які намалявалі, такі і будзе". Але ж гэта Герб горада, яго візітовая картка, амаль што яго твар. І адносіцца да яго трэба беражліва. Можна б было і не звяртаць увагі на твор спадара Янушкевіча, калі б ён змяшчаўся дзе-небудзь на выставе альбо ў тым жа тэатральна-мастацкім Інстытуце. Але ж змешчаны ён у зале пасяджэнняў не якой-небудзь "шаражкі", а Мінскага гарадскога Савета, казаўшы па-старому, мэрыі. Таму і небеспадстаўнымі можна лічыць апаскі спадара Цітова, якога палохае перспектыва зацвярджэння менавіта гэтага твора мастацтва ў якасці герба. Зразумела, што рэферэндум па гэтаму пытанню праводзіць не трэба. А вось прыцягнуць спецыялістаў і па-сапраўднаму даследаваць гэту справу — неабходна.

**Мікола Багадзяж.**

**P.S.** І яшчэ. Можа гарадскі Савет у рэшце рэшт прыме рашэнне, як называць выяву на гербе Мінска. У размовах і друку сустракаюцца і дзева Марыя, і Багародзіца, і Богамацер, і пані Марыя. Хутка хто-небудзь пажадае сказаць: "Спадыня Марыя"...

**М.Б.**

*Вандроўка ў мінулае*

# Мой дзед — нашчадак князёў

...Дарога бяжыць між палёў. У ранішнім паветры над палямі вісіць празрыстая смуга. Мы едзем у вёску, дзе нарадзіўся мой тата.

Машына збочвае з асфальтаванай дарогі. На розвілку – могілкі. Жалезныя абадраныя крыжы і зусім старыя – драўляныя. На магілах ляжыць ежа. Зямля зацягнута цёмна-зялёным, заўсёды вільготным і пругкім імхом. Самыя старыя магілы падобныя на пагорачкі. Сумна...

Машына пыліць па вёсцы, па адной-адзінай вулачцы. Перапалоханыя куры ратуюцца ўцёкамі.

У хаце звычайна жывуць толькі мае дзядуля і бабуля. Але на святы з'язджаюцца ўсе іх дзеці і ўнукі. І праўнучка – мая маленькая пляменніца Каця.

У такія дні хата ажывае. Вечарам, калі ўжо ўправіліся з гаспадаркай, усе збіраюцца разам, яна робіцца яшчэ больш утульнай і роднай. Дарослыя няспешна вядуць гаворку, пад час якой можна ўведаць шмат дзіўных рэчаў. Убачыць дваранскую грамату ад Дзяржаўнага Сената, ружанец прабабкі, паставіць на радыёлу (калі памёр Сталін, ля яе сабралася ўся вёска) кружэлкі сівой даўніны, паглядзець на расфарбаваную фатаграфію бравага ўлана – прадзеда, патрымаць у руцэ візантыйскую манетку – чорную і тонкую, быццам завялы лісцік. А пачуць можна... Ды ўсё, што хочаце. Ад абмеркавання апошніх палітычных падзей да гісторыі пра магілу дзекабрыста Пушчына: бабуля бачыла, як руйнавалі трактарам іх сямейны склеп, – гэта было яшчэ да вайны.

З гэтых размоў я даведалася і пра сваіх продкаў. Прозвішча майго прадзеда было Карыбут-Дашкевіч, ён быў шляхціч, магчыма, нашчадак вялікіх князёў Літвы і Беларусі. А скончыў жыццё за кратамі НКУС, таксама, дзе і другі мой прадзед (па матчынай лініі).

...Ужо на змярканні выходзім з хаты і ідзём да ракі Бярэзіны. Уверсе шапоча лісце і скрозь яго бачна зорнае неба – коўш Мядзведзіцы і Млечны шлях. Звіняць камары, мокрая ад расы трава хвошча па нагах. Аднекуль даносяцца галасы людзей, чуецца іх смех...

Аднак самае дзіўнае і цудоўнае – гэта лес! Сапраўдныя грыбныя і ягадныя лясы пачынаюцца за старой вымерлай вёсачкай, што непадалёку ад нашай.

Неяк на ўскрайку лесу я заўважыла яблыні. Маленькія, напаўзасохлыя дрэўцы. А кусцікі суніц, што раслі побач, вельмі ўжо нагадвалі клубніцы. Тата растлумачыў мне, што гэта – рэшткі хутара. Хату разбурылі, яе жыхароў – і малых, і дарослых – адправілі ў Сібір, а расліны працягваюць жыць. Маленькія, скрыўленыя яблынькі перажылі сваіх гаспадароў.

І яшчэ адзін сумны напамінак пра тыя часы. Аднойчы мы з дзядулем і татам выправіліся за раку, на вялікі луг "падглядаць пчол". Так-так, амаль па Коласу.

Дзень быў такі прыгожы! Жоўтым шарам дрыжэла і пералівалася сонца. На фоне блакітнага неба і цёмнага краю лесу стаялі маладыя бярозкі, з бялюткімі ствaламі і яркім лісцем. Яны раслі чародкамі, лёгкія і зграбныя, а паміж імі сцяной падымаліся мяцёлкі цвёрдай травы. Ці то гай, ці то луг. Тата сказаў:

– Беларускія джунглі.

Я ўсміхнулася. Джунглі – гэта экзотыка з кніг. Якія на Беларусі джунглі? Але трава на самай справе была вышэй за галаву. Потым я даведалася, як з'явіліся гэтыя джунглі. За Бярэзінай была вялікая, багатая вёска. Сталінскі каток знішчыў яе: каго саслалі, каго расстралялі. А ўрадлівыя некалі палі ператварыліся ў джунглі, рай для казуль і дзікоў. Так хочацца верыць, што калі-небудзь сюды зноў прыйдуць людзі...

Вядома, вёска, пра якую я расказала, усяго толькі маленькі куточак Беларусі, але ж менавіта з такіх куточкаў і складаецца наша Бацькаўшчына – адзіная і непаўторная.

...Я сяджу на беразе ракі. Ледзь чутна плёскае вада аб карчы, парыпваюць старыя вербы. Гэтая рака і гэтае неба, вецер і вербы былі на свеце заўсёды. Шмат стагоддзяў таму таксама плёскала вада і плылі па небе хмары. І шмат стагоддзяў пасля будзе гэтаксама. Што б ні здарылася, яны застануцца. Магчыма, людзі прыходзілі сюды і да мяне і думалі пра тое ж? Магчыма, пасля мяне таксама хто-небудзь прыйдзе на бераг? І ад кожнага застанецца яго часцінка: у плёскаце ракі і ветры, у шэрым небе і шоргатах. А Бярэзіна ўсё цякла і будзе цячы вечна. Мая родная рака, на беразе якой я ўпершыню зразумела, што гісторыя – не нешта адцягненае. Гісторыя – гэта мы.

**Юлія Дашкевіч,**
**вучаніца СШ № 191**
**г.Мінска.**

*Гэты рэгіён этнічна і цяпер яшчэ далёка не вызначаны, што дае магчымасць прадстаўнікам розных рухаў адносіць яго то да ўкраінцаў, то да беларусаў, то да яцвягаў... Тым больш цяжка гаварыць пра нацыянальнае азначэнне жыхароў Заходняга Палесся ў мінулым. Але, шукаючы вырашэння нацыянальных праблем заходняга ўчастка беларуска-ўкраінскага памежжа, варта зазірнуць у яго этнічную гісторыю як далёкую, так і нядаўнюю. Прыкладна так можна акрэсліць нататкі кандыдата філалагічных навук, супрацоўніка АН Беларусі Фёдара Клімчука.*

# ФЕНОМЕН БРЭСЦКА-ПІНСКАГА ПАЛЕССЯ

## Неўры, вервіяне, ставаны, яцвягі...

Найбольш раннія звесткі пра Палессе знаходзім у старажытнагрэчаскага гісторыка Герадота (каля 484—425 гг. да н.э.). Ён паведамляе, што на паўночны захад ад скіфаў-аратых, г.зн. у Прыпяцкім Палессі і паўночна-заходняй Валыні жылі неўры. Зямлю іх ён назваў Няўрыдай. Гэтыя назвы замацаваліся і выкарыстоўваліся да пачатку нашай эры ў грэчаскай, а затым і ў рымскай літаратурах.

На якой мове гаварылі неўры, старажытныя крыніцы не паведамляюць. Разглядаючы праблему паходжання славян, вучоныя прыйшлі да вываду, што большая частка Заходняга Палесся з'яўлялася або часткай славянскай прарадзімы, або зонай старажытнай славянскай міграцыі. Паўночнай мяжой старажытнага рассялення славян у Заходнім Палессі з'яўлялася рака Ясельда. На поўнач ад яе жылі балтыйскія плямёны, назвы якіх не захаваліся. Выключэнне складае племя судзінаў, пра якое пісаў старажытнагрэчаскі вучоны Клаўдзій Пталамей (г.зн. невядомы — 168 г. да н.э.). Судзіны жылі прыкладна паміж вярхоўямі Ясельды і раёнам сучаснага польскага горада Сувалкі. У больш позніх помніках судзіны называюцца судавамі і яцвягамі. Асобныя групы яцвягаў у X—XIII ст.ст. пасяліліся на поўдзень ад Ясельды. Да яцвяжскіх помнікаў вучоныя адносяць курганы, якія абкладзены камянямі. Такія курганы сустракаюцца каля вёсак Чахец Пружанскага, Баранкі, Горкі, Кусцічы, Лысоўчыцы, Млыны, Радасць, Ратайчыцы, Русілы, Ставы, Трасцяніца, Угляны, Хатынава, Шастакова, Яцкавічы Камянецкага, Ракавіца, Рудавец, Шытнікі Брэсцкага, Дзераўная Драгічынскага раёнаў.

Той жа Клаўдзій Пталамей піша пра народ ставаны, які жыў паміж судзінамі і аланамі. Аланы ў той час жылі ў басейне Дона. Такім чынам, асноўную частку Брэсцка-Пінскага Палесся ў часы Пталамея засялялі ставаны, а ў яго паўночна-заходняй частцы жылі судзіны-яцвягі. У іншым месцы Клаўдзій Пталамей піша пра народ суавены або свавены, якія жылі ў Сярэднім Падняпроўі і ў сумежных тэрыторыях. Многія даследчыкі лічаць, па-першае, што ставаны і суавены-свавены — гэта адзін і той народ, а па-другое, што гэта скажоныя назвы славян.

Да нас дайшоў пісьмовы помнік IX ст., створаны ў Германіі, які атрымаў назву "Баварскі географ". У ім гаворыцца пра 58 народаў і плямёнаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Сярод іх — нераўяне, якіх многія даследчыкі размяшчаюць у Заходнім Палессі. Звернем увагу, што ў назвах "нераўяне" і "неўры" фактычна адзін і той жа корань.

Візантыйскі імператар Канстанцін Парфірагеніт (Багранародны) у 948—952 гг. напісаў працу "Аб кіраванні імперыяй", у якой шмат увагі ўдзяліў усходнім славянам. У прыватнасці, ён піша пра ўсходне-славянскія плямёны крывічоў, дрыгавічоў, драўлян, северан, улічаў і загадкавых вервіян. Канстанцін Парфірагеніт гаворыць, што вервіяне, як і іншыя плямёны, плацілі даніну кіеўскаму князю. Але дзе яны жылі, ён не паведамляе. Звернем, аднак увагу, што слова "вервіяне" па гучанню блізкае да слова "нераўяне". Хутчэй за ўсё гэта назвы аднаго і таго ж племені: у Германіі яго называлі нераўянамі, а ў Візантыі — вервіянамі.

## "Аповесць мінулых гадоў" і археалогія

У XI—XII стст. у Кіеве створана славутая "Аповесць мінулых гадоў" ("Повесть временных лет"). У ёй шмат увагі ўдзелена старажытным усходнеславянскім плямёнам. Але ж пра тэрыторыі іх рассялення сказана толькі ў агульных рысах. Таму па тэксту "Аповесці" немагчыма ўстанавіць, якія плямёны жылі ў Брэсцка-Пінскім Палессі. На дапамогу прыходзіць археалогія. Але археалагічныя звесткі таксама не заўсёды могуць даць канкрэтны адказ. На тэрыторыі Брэсцкай вобласці можна налічыць некалькі дзесяткаў населеных пунктаў, дзе выяўлены археалагічныя помнікі VI—XIII стст. Пакінуты яны пераважна славянамі, але многія з іх наогул немагчыма суаднесці з якім-небудзь племенем. Таму вучоныя не прыйшлі да адзінай думкі наконт таго, якое племя засяляла Заходняе Палессе. Існуюць тры асноўныя тэорыі: дрыгавіцкая, валынянская і драўлянская. Паводле першай, Цэнтральную і Паўднёва-Заходнюю Беларусь, а таксама Валынскае Палессе засялялі дрыгавічы. Але тыповыя дрыгавіцкія помнікі (пацеркі дрыгавіцкага тыпу) канцэнтруюцца пераважна ў раёне Турава, Мазыра, Мінска, Бабруйска, менш іх у раёне Навагарадка, Слоніма, Беластока. Для Заходняга Палесся яны не характэрны. Таму, калі адносіць жыхароў Заходняга Палесся да дрыгавічоў, трэба дапусціць, што яны ўтваралі адасобленую групу. Згодна з валынянскай тэорыяй, племя валынян засяляла паўднёвую Валынь і Брэсцка-Пінскае Палессе. На гэтай тэрыторыі пашыраны этнавызначальныя помнікі валынян — парныя курганы. Але ж іншыя тыповыя валынянскія помнікі знаходзяцца толькі на поўдзень ад Луцка і Роўна. Помнікі ж Валынскага і Брэсцка-Пінскага Палесся зноў жа ўтвараюць асобную групу, як бы перыферыю валынян, якая збліжаецца з дрыгавіцкай і драўлянскай культурай. Наступная тэорыя — драўлянская, згодна з якой драўляне засялялі тэрыторыю, якая на ўсходзе даходзіла амаль што да Кіева, а на захадзе ўключала раён Брэста. І зноў жа тыповыя драўлянскія помнікі (наяўнасць у курганах праслойкі з вуголля і попелу над нябожчыкам) знаходзяцца на ўсход ад Гарыні. Сустракаюцца, праўда, драўлянскія курганы і на захадзе (Відзібар Столінскага, Дружылавічы Іванаўскага раёнаў). Такім чынам, пры накладванні карт рассяленняў плямёнаў, паводле трох прыведзеных тэорый, атрымліваем наступны малюнак: помнікі Брэсцка-Пінскага і Валынскага Палесся, хоць і блізкія да помнікаў асноўных дрыгавіцкіх, валынянскіх і драўлянскіх, усё ж адрозніваюцца ад іх, утвараючы пэўнае адзінства, этна-культурную групу. Відавочна, тут жыло асобнае ўсходнеславянскае племя, якое не трапіла на старонкі "Аповесці". Зыходзячы з таго, што этнавызначальныя помнікі валынян VIII—X стст.— парныя курганы пашыраны не толькі ў паўднёвай Валыні, але і на тэрыторыі Валынскага і Брэсцка-Пінскага Палесся, можна дапусціць, што прыкладна на рубяжы VII—VIII стст. гэтае племя ўвайшло ў валынянскі саюз.

## Кіеўская Русь. Рускія

У IX—X стст. Брэсцка-Пінскае Палессе ўвайшло ў склад Кіеўскай Русі. Яго насельніцтва пачало называць сябе рускімі. Калі зыходзіць з гістарычнай сітуацыі, дык можна канстатаваць, што ў часы Кіеўскай Русі ў этнічнай гісторыі ўсходняга славянства існавалі дзве тэндэнцыі: 1) фарміраванне адзінага ўсходнеславянскага народа — рускіх; 2) фарміраванне асобных народаў. Абедзве тэндэнцыі характэрны для ўсёй тэрыторыі Кіеўскай Русі. Аднак, у адных рэгіёнах пераважала першая, у другіх — другая. Тэндэнцыя кансалідацыі ўсходніх славян у адзіны народ была характэрнай для Кіеўскай зямлі і суседніх з ёю абласцей сучаснай паўночнай Украіны і паўднёвай Беларусі, да якіх належала і Брэсцка-Пінскае Палессе. Тэндэнцыі фарміравання некалькіх усходнеславянскіх народаў, відаць, у першую чаргу атрымалі пашырэнне ў тых княствах, якія вялі незалежную ад Кіева палітыку. Такім княствам раней ад іншых стала Полацкае, пазней Галіцка-Валынскае і Растова-Суздальскае.

* * *

У 1240 г. Кіеў разбураны войскамі хана Батыя. Горад надоўга прыйшоў у занядад і перастаў быць цэнтрам усходнеславянскіх зямель. Узвысіліся новыя гарадскія цэнтры на захадзе Русі (Полацак, Навагарадак), на паўднёвым захадзе (Галіч, Уладзімір Валынскі, Львоў), на паўночным усходзе (Уладзімір Суздальскі, Масква). Змянілася палітычная сітуацыя. У XIII—XIV стст. цяперашняя Беларусь і большая частка Украіны ўвайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Галічына ў сярэдзіне XIV ст. увайшла ў склад Польшчы. Паўночна-Усходняя Русь доўга знаходзілася ў залежнасці ад Залатой Арды. Букавіна ў XIV ст. увайшла ў склад Малдовы, а Закарпацце яшчэ ў X—XII стст.— у склад Венгрыі.

У такіх умовах тэндэнцыі кансалідацыі ўсходніх славян у адзін народ моцна аслаблі. Аднак яны не зніклі, а існавалі і ў XIV—XVI стагоддзях.

Пашырэнне назваў Белая Русь і беларусы (беларусцы) на беларускай этнічнай тэрыторыі і назваў Украіна, украінцы на ўкраінскай этнічнай тэрыторыі адбывалася паступова. Доўгі час гэтыя назвы ўжываліся паралельна з назвамі Русь і рускія. У XVII ст. Белай Руссю называлі паўночны ўсход этнічнай Беларусі (раён Полацка, Віцебска, Магілёва, Смаленска, Гомеля), а Украінай — паўднёвы ўсход этнічнай Украіны (раён Палтавы, Харкава, Чаркасаў, Вінніцы). Паступова гэтыя назвы пашыраліся на іншыя землі. У XVIII ст. да Белай Русі ўжо адносяць Міншчыну. У 30-я гады XX ст. карэннае праваслаўнае насельніцтва Панямоння, у тым ліку той яе часткі, якая цяпер уваходзіць у склад Брэсцкай вобласці (раён Баранавіч, Ляхавіч, Івацэвіч, Косава, Ружан), называла сябе пераважна беларусамі.

Паводле перапісу 1857 г., 42 працэнты насельніцтва Валынскай губерні аднесена да маларасіян, г.зн. украінцаў. Паводле польскага перапісу 1931 г., у заходнеўкраінскіх ваяводствах Львоўскім, Станіслаўскім і Цярнопальскім русінамі запісана 1138,9 тыс. чалавек, украінцамі — 1675,2 тыс. чал.

Брэсцка-Пінскае Палессе, знаходзячыся на беларуска-ўкраінскім этнічным узмежжы, было вельмі аддалена ад ачагоў першапачатковага замацавання этнонімаў "беларусы" і "ўкраінцы". Акрамя таго, яно аддзелена значнымі балотнымі масівамі ад Валынскага Палесся і Панямоння. Гэтыя фактары былі неспрыяльнымі як для пашырэння тут этноніма "беларусы", так і этноніма "ўкраінцы". У 30-я гады XX ст. карэннае насельніцтва Брэсцка-Пінскага Палесся называла сябе пераважна рускімі.




**Гістарычна-этнаграфічныя зоны Брэсцка-Пінскага Палесся і яго сумежжаў**

I Загароддзе.
II. Паўночная Берасцейшчына.
III Верхняе Над'ясяльддзе.
IV Усходняе Палессе.
V. Падляшша.
VI. Валынскае Палессе.
VII. Цэнтральная Беласточчына.
VIII. Панямонне.
IX. Случчына.
X. Цэнтральная Халмшчына.

Брэсцка-Пінскае Палессе ахоплівае большую частку сучаснай Брэсцкай вобласці без яе паўночных раёнаў. За межамі Беларусі да яго адносяцца сумежная тэрыторыя Украіны (раён Любяшова, Зарэчнага, Дубровіцы) і Польшчы (раён Бяла-Падляскі і Бельска). Разам з Валынскім Палессем Брэсцка-Пінскае ўтварае так званае Заходняе Палессе.

Брэсцка-Пінскае Палессе неаднароднае. Асноўная яго частка – гэта этнаграфічнае Загароддзе (I). Да яго адносяцца раёны: Брэсцкі, Камянецкі, Жабінкаўскі, Маларыцкі, Кобрынскі, Драгічынскі, Іванаўскі, Пінскі цэнтр і захад Столінскага, поўдзень Бярозаўскага (раён Белаазёрска), паўднёвыя ўскраіны Пружанскага і Івацэвіцкага, паўднёвы захад Лунінецкага. Другі рэгіён Брэсцка-Пінскага Палесся – паўночная Берасцейшчына (II). Яна падзяляецца на дзве зоны – заходнюю (раён Шарашова) і ўсходнюю (раён Целяхан, Малькавіч, Лунінца). Паўночная Берасцейшчына блізкая да Усходняга Палесся (IV). Выдзяляецца таксама невялікі рэгіён пераходны паміж Загароддзем і паўночнай Берасцейшчынай – гэта Верхняе Над'ясяльддзе (III) (наваколлі Бярозы і Пружан).




# СКАЎЦКІ СПАДАРОЖНІК

*Крок за крокам ідзе адраджэнне скаўцкага руху на беларускай зямлі. На жаль, гістарычны разрыў паміж цяперашнімі скаўтамі і іх папярэднікамі нарадзіў вялікую колькасць пытанняў. Каб адказаць на некаторыя з іх, прапануем вашай увазе фрагменты з кнігі "Скаўцкі спадарожнік", выдадзенай у 1948 годзе Галоўнай Кватэрай Беларускіх Скаўтаў.*

## Скаўцкая прысяга

На мой гонар прысягаю, што, паводле маёй найлепшай волі і старанняў,
буду верны Богу і Бацькаўшчыне,
буду дапамагаць кожнаму чалавеку ва ўсякім часе,
буду паслухмяным Скаўцкаму Праву і свайму Кіраўніку.

## Скаўцкае права

1. Скаўт высока трымае свой гонар і гонар свайго Народа.
2. Скаўт служыць свайму Народу і Бацькаўшчыне і старанна выконвае свае абавязкі.
3. Скаўт паслужлівы, рыцарскі, сяброўскі і дапамагае іншым. Скаўт скаўту ёсць брат.
4. Скаўт слоўны, сумленны і праўдамоўны.
5. Скаўт любіць прыроду і імкнецца яе пазнаць.
6. Скаўт ашчадны.
7. Скаўт заўсёды вясёлы і жыццярадасны.
8. Скаўт выхоўвае ў сабе моцны характар, адвагу і мужнасць.
9. Скаўт заўсёды дысцыплінаваны і паслухмяны сваім бацькам і Кіраўніку.
10. Скаўт чысты ў мове, думках і ўчынках.

## Скаўцкая адзнака

З малюнка, які прадстаўляе скаўцкую лілейку, даведаецеся Вы, што кожны лісток азначае адзін з трох пунктаў Скаўцкай Прысягі: вернасць Богу і Бацькаўшчыне, дапамога кожнаму чалавеку ва ўсялякім часе і паслухмянасць Скаўцкаму Праву і Кіраўніцтву.




На лілейцы Вы бачыце двухканцовы крыж, узяты з нашага нацыянальнага герба Пагоні. Ён азначае любоў да Бацькаўшчыны, якую кожны скаўт павінен насіць у сэрцы. Стужка, што звязвае 3 пялёсткі лілейкі, — сімвал сяброўства ўсіх скаўтаў свету, а ніжэй змешчаны покліч "Напагатове!" нагадвае скаўту, што ён у кожную хвіліну павінен быць падрыхтаваным да выканання Скаўцкай Прысягі і Скаўцкага Права.

## Вучыся мове валацужнікаў

Вельмі цікавым з'яўляецца вывучэнне пад час падарожжа, асабліва вясной і ўлетку, знакаў валацужнікаў, намаляваных крэйдай на платох, мурох і рагу дамоў.

Гэтыя своеасаблівыя знакі для звычайнага чалавека незаўважныя, аднак змяшчаюць шматлікія звесткі для валацужнікаў. Яны былі выдуманыя імі перад многімі гадамі, каб заашчадзіць сабе непатрэбную працу, час і рызыку.




Гэтыя знакі з некаторымі зменамі ёсць аднолькавыя ва ўсіх частках Еўропы і Амерыкі.

Веданне гэтых знакаў дае магчымасць валацугу пазнаць, ці можна ў гэтым доме прасіць дапамогі і ці яна даецца ежай, ці грашыма. Існуе знак кола:"Тут нічога няма", іншы значыць, што "тут жыве жандар!"

Вы бачылі хіба грубы малюнак паравоза, накрэслены крэйдай на брамах і платах і падумалі, што гэта намалявала нейкае дзіця. У запраўднасці гэта быў знак валацугі:"Даюць тут грошы на чыгунку!"

Адзін з гэтых знакаў тлумачыць, колькі жанчын жыве ў пазначаным доме. Малююцца шэрагам трохкутнікі і злучаюцца іх падставы суцэльнай лініяй. Перад гэтымі геаметрычнымі фігурамі стаіць вялікая літара V. Кожны трохкутнік азначае адну жанчыну, пры гэтым значок V перад трыма трохкутнікамі азначае:"Тут жывуць 3 жанчыны". Іншыя цікавыя знакі і іх значэнне глядзіце на малюнку.

## Што ты павінен ведаць пра сляды і следаходства

### Агульныя звесткі пра сляды

У кніжцы "Скаўтынг для хлопцаў" прызначаў Шэф Скаўт цэлы раздзел на апісанне жыцця ў лесе. Ён вымагаў ад скаўтаў пільна вывучаць жыццё дзікіх жывёлін і птушак, а таксама дрэвы і расліны.

Сляды шматлікіх жывёл можна заўсёды знайсці ў лесе, уздоўж берагоў рэк, недалёка ад вадапою, на ўзбярэжжы, на балоцістых сцежках у лесе або на пясчаных палосах адразу пасля дажджу.

Калі вы толькі прыгледзіцеся, будзеце здзіўлены вялікай колькасцю слядоў, якія тут можна знайсці. Вялікія і малыя, шматлікія вам вядомыя, іншыя не. І калі вы зробіце разумныя вывады са сваіх назіранняў, то прачытаеце цудоўную гісторыю па гэтых слядах.

З розных метадаў атрымоўвання адбітку следу, на аснове чаго можна потым атоесаміць сляды,— з'яўляецца найлепшым пляйстравы метад, які дае найбольш дакладны вобраз следу. Можна сказаць, што гэта найпрацейшы метад, бо найбольш лёгкі.

Каб зрабіць гэткі адбітак следу, бярэцца стужка паперы, прыблізна 30 см даўжыні і 5 см ушыр, іголка або шпілька да шчаплення, бляшаначка вазеліны, трохі талькавага парашку з аптэкі, трохі солі, гіпсу і старая бляшаначка ад кансерваў для размяшання.

Калі знойдзеце след, з якога трэба зрабіць адбітак, зірніце, каб зямля, на якой ён знаходзіцца, не была надта вільготнай. След павінен быць цвёрды, каб зрабіць можна было з яго добры здымак. Перш трэба след пасыпаць талькавым парашком, пакрываючы ўсе ўглыбленні і вадзяныя пузыры, калі гэткія знаходзяцца ў ім, аднак, зважаць трэба, каб не насыпаць парашку зашмат.

Пашмараваўшы стужку паперы вазелінай, абводзіцца ёй след і шчапляецца іголкай або шпількай. Затым мяшаецца гіпс. Бярэцца адпаведная



колькасць гіпсу ў бляшаначку, дадаецца жменька солі, каб хутчэй скамянеў, і даліваецца столькі вады, каб мяшанка ўтварыла густое цеста, якое можна было б выліць з бляшаначкі. Цяпер выліваецца мяшанка з аднаго боку папяровага кола, пакуль цалкам не пакрые след таўшчынёй на 3 см. Пасля 20 хвілін гіпс скамянее. У міжчасе, каб магчымым было потым распазнаць след, трэба запалкай або нейкім ражном выпісаць на гіпсавай плітцы назоў жывёлы ад якой маецца след, дату і месца знаходжання.

Пасля 20 хвілін (не раней) трэба адняць старанна стужку паперы, абкапаць навокал зямлю і зняць адбітак. Калі цяпер абчысціць мяккай шчоткай і вадой увесь бруд з адбітку, пабачыце, што паўстаў дакладны здымак нагі жывёлы, што на зямлі пакінула свой след.

Маючы ўжо здымак следу, будзе зусім простай справай атоесаміць яго ў выпадку патрэбы. Дапаможнікам у распазнаванні слядоў ёсць кніжка следаходства, яна дапаможа вам у шматлікіх выпадках.

Падрыхтаваў
Паўлюк Быкоўскі.

*На пачатку гэтага года ў маскоўскім выдавецтве "Художественная литература" выйшла першая і апошняя кніга забітага ва ўзросце 35 год паэта, спевака і кампазітара Ігара Талькова. Назва яе — "Маналог". На жаль, наклад зборніка публіцыстыкі і песень мізэрны. Таму мы палічылі магчымым прадставіць нашаму чытачу ўрывак з яе, прысвечаны праблеме антысемітызму, у якім пры жыцці часта абвінавачвалі Талькова.*

# «АНТЫСЕМІТ»

## ІГАР ТАЛЬКОЎ



Да 1989 года ўключна мне даводзілася часта чуць за сваёй спінай: "Антысаветчык". Пасля таго, як песня "Расія" "пазатыкала" раты многім "саветчыкам", мяне перакваліфікавалі ў "антысеміта".

Першымі ўспудзіліся мае калегі — кампазітары-яўрэі. На перадачы "Песня-89", дзе я спяваў "Расію", некаторыя з іх ускліклі: "Як жа так, Ігар! Вы ж адукаваны інтэлігентны чалавек, і раптам: "Ринулись оттуда, срубая головы церквям и славя красного царя, новоявленные иуды". Што з Вамі?! Адкуль такі шавінізм і антысемітызм?"

Спачатку я аджартоўваўся, не надаючы гэтаму вялікага значэння. Затым пачаў тлумачыць, што слова "юда" — сінонім слова "здраднік". Я ж не спяваю: "новоявленные иудеи". Тлумачэнні не падзейнічалі. У рэшце рэшт мне ўсё гэта надакучыла, і я, усур'ёз вырашыўшы даказаць, што патрыятызм і шавінізм — паняцці дыяметральна супрацьлеглыя, пачаў кідацца ў працяглыя палемікі, якія канчаліся заўсёды адным і тым жа: мае апаненты, заціснутыя ў кут жалезнай логікай, моўчкі разводзілі рукамі, але, зачыніўшы за сабой дзверы, кідалі праз плячо: "І ўсё-такі, Ігар, Вы — антысеміт". Дзіўная цвердалобасць!

"Антысемітызм", паважаны мой чытач, прыдуманы не рускімі і нават не русафіламі, не простымі яўрэямі, а сіяністамі, г.зн. яўрэямі-нацыяналістамі. Гэты тэрмін прыдуманы яшчэ ў канцы XIX стагоддзя аўтарам пратаколаў "сіёнскіх мудрацоў" — Ахад-Хамам, сапраўднае імя якога Ашэр Гінзберг. Краіны Амерыкі і Еўропы даўно ўжо ведаюць, што ў 1897 годзе ў Базелі адбылася канферэнцыя, на якой упершыню былі зачытаны вышэйпрыгаданыя пратаколы самім Ахад-Хамам, з мэтай захопу ўлады над усім светам. Першая краіна, якая павінна была падпарадкавацца сіёнскай уладзе, — Расія, бо праваслаўе з'явілася сур'ёзнай перашкодай на шляху захопу ўлады над светам для тых, хто вызнаваў дыяметральна супрацьлеглую веру. Яўрэі, якія верылі ў праваслаўе, таксама павінны былі быць альбо падпарадкаваны "ахад-хамістамі", альбо знішчаны. Паставіць на калені Расію ў 17-м годзе "сіёнскім мудрацам" удалося, а вось з усім светам — не атрымалася. Ашэр Гінзберг назваў усіх яўрэяў гоямі. Рускія "гоі" далі маху, але вось французскія, італьянскія, нямецкія, англійскія і амерыканскія своечасова "прасяклі" сітуацыю і паставіць сябе на калені не далі. Паколькі большая частка сусветнай прэсы ўсё яшчэ знаходзіцца ў руках паслядоўнікаў "ахід-хамізму", "гой" — ці то рускі, француз ці англічанін, які ганарліва абвяшчае: "Расія!", "Францыя!", "Англія!" — адразу становіцца "антысемітам". З гэтага робім вынік: паводле раскладкі Ашэра Гінзберга, патрыятызм ёсць антысемітызм і наадварот.

Дарэчы, вялікі рускі пісьменнік Фёдар Міхайлавіч Дастаеўскі спрабаваў растлумачыць свету і сваім суайчыннікам, што такое "сіянізм" яшчэ ў XIX стагоддзі, але суайчыннікі гэтага не пачулі, свет не надаў гэтаму значэння, затое Ахад-Хам імгненна зрэагаваў, і прасіёнская прэса абвясціла генія "звар'яцелым антысемітам".

P.S. Хто зацікавіцца матэрыяламі Ф.М.Дастаеўскага, прачытайце "Дзённік пісьменніка", том 25, за 1877 год (студзень—жнівень).

Сіяністы заўсёды і ўсім крычалі і працягваюць крычаць: "Антысеміты!" — у той момант, калі іх хапаюць за руку на месцы злачынства. "Антысемітызм" — адзін са сродкаў абароны, які яны прыдумалі з мэтай барацьбы са сваімі праціўнікамі, а праціўнікі — гэта тыя, хто не прызнае антыбоскую сутнасць сіянізму.

Калі апаганьваліся і знішчаліся помнікі рускай нацыянальнай культуры, калі паліліся старажытнейшыя кнігі і рукапісы, калі рускі народ варварскім спосабам адрывалі ад сваіх каранёў, скажаючы ягоную гісторыю, ніхто чамусьці не гаварыў пра русафобію, выключаючы жменьку патрыётаў, ну а ўжо пра сіянізм, крый Божа, было што-небудзь сказаць.

Генацыд у адносінах да рускага народа бесперашкодна квітнеў і набіраў моц, але як толькі рускія людзі заяўлялі аб тым, што яны — рускія, што ў іх ёсць багацейшая культура і гісторыя, з якой яны не дазволяць выкінуць ніводнай старонкі, дык адразу ж чуўся палахлівы лямант пра "антысемітызм", "шавінізм", "нацыяналізм", "антысаветызм". Гэты мудрагелістыя прыём разлічаны на недасведчаных прастакоў.

У юнацтве, калі я дакопваўся да прычын трагедыі свайго народа, вывучаў працы У.І.Леніна, у мяне валасы ўставалі дыба, ды так, што я іх па сённяшні дзень прыгладзіць не магу. Калі я прачытаў напісаныя Леніным радкі, якія паказваюць ягоныя адносіны да рускага народа і рускай інтэлігенцыі, усё стала на свае месцы. Не хачу быць галаслоўным і тым, хто жадае са мной паспрачацца альбо не верыць маім сцвярджэнням, рэкамендую: прачытайце 36-ы том Поўнага збору сачыненняў У.І.Леніна, 5-е выданне, дзе на старонках 144, 145, 200, 269, 369, 428, 449 і іншых вы сярод масы цікавага прачытаеце наступныя выразы: "Рускі чалавек — дрэнны работнік", "Расейская інтэлігенцыя — дзярмо", "Галоўная маса інтэлігенцыі старой Расіі аказваецца прамым праціўнікам Савецкай улады. Працэс браджэння ў шырокіх настаўніцкіх масах толькі яшчэ пачынаецца" і г.д. і да т.п. Так што для таго, каб зразумець сутнасць перавароту і сутнасць яго правадыра, не трэба дастаўваць падпольную літаратуру, чытайце Леніна — і вы ўсё зразумееце! Эпітэты, якімі Уладзімір Ільіч узнагароджвае інтэлігенцыю і народ, гавораць самі за сябе. І тых, і другіх Ільіч ненавідзіць. Узнікае пытанне: адкуль такая нянавісць у чалавека, які нарадзіўся ў рускай інтэлігентнай сям'і на беразе рускай ракі Волгі, адкуль у прадстаўніка дваранства падобныя адносіны да свайго народа?

Дакопваючыся да сутнасці прычын, бо гэтае пытанне не давала мне спакою дзесяцігоддзе і служыла стымулам руху па шляху прасвятлення, перагарнуўшы стосы матэрыялаў, дакументаў, бясспрэчных фактаў і гістарычных сведчанняў, я знайшоў нарэшце адказ і зрабіў вывад, што правадыр сусветнага пралетарыяту быў самым сапраўдным русафобам. Высвятляючы для сябе, што такое русафобія, я міжвольна прыйшоў да вывучэння "сіянізму". Аказалася, што адно — сутнасць другога. Кропкі над "і" былі расстаўлены. Я зразумеў, каму быў патрэбны кастрычніцкі пераварот, знішчэнне веры, барацьба з праваслаўем, вынішчэнне генафонду і адэбільванне мас (...).

Дарэчы, пра "антысемітаў" і "антысемітызм". Спектакль "Суд" мы іграем з групай "Выратавальнае кола", дзе музыкі, яны ж і акцёры, амаль усе — яўрэі, а самы мой блізкі сябар — музычны кіраўнік, аранжыроўшчык і лідэр-гітарыст групы "Выратавальнае кола" Генадзь Бяркоў — чыстакроўны яўрэй і не хавае гэтага у адрозненне ад маіх калег — савецкіх кампазітараў.



Я суджу людзей не па нацыянальнай прыкмеце, а па наяўнасці ў іх сумлення ці адсутнасці яго. Прыстойны яўрэй сябрам мне стаць можа, тады як нягоднік рускі — ніколі. Мне даводзілася сустракаць яўрэяў, якія жывуць па хрысціянскіх прынцыпах, і рускіх "юд". Няважна, да якой нацыянальнасці належыць чалавек, важна, каму ён служыць — Белым ці чорным, сілам Дабра ці сілам зла, Богу ці д'яблу, імкнецца да разбурэння ці да стварэння, множыць свае грахі ці цягнецца да ісціны.

Мой сябар і памочнік Генадзь Бяркоў, якога я ўжо прыгадваў, валодае сумленнем, розумам і душой, у яго нават у думках ніколі не ўзнікала пытанне: "А можа я антысеміт", бо ён цудоўна ўсё разумее.

Я — бард. Я пішу і спяваю песні пра тое, што мяне хвалюе. Свабода творчасці — мой прынцып, а прыналежнасць да любой палітычнай партыі альбо арганізацыі абавязвае прытрымлівацца нейкага статута і правілаў.

Мой метад барацьбы з несправядлівасцю і злом, за праўду і дабро — мае песні. Мой абавязак — максімальна данесці да розуму і сэрца слухача тое, аб чым баліць і лямантуе мая душа.

Расія — боль маёй душы.

Сацыяльныя песні — крык маёй душы.

Бой за дабро — сутнасць майго жыцця.

Перамога над злом — мэта майго жыцця.

Калі я камусьці і служу, дык толькі Госпаду Богу, і раблю справаздачу за зробленае ў гэтым жыцці толькі перад Усявышнім.

**P.S.** Як паведаміў маскоўскі штотыднёвік "Коммерсантъ" у сваім апошнім нумары, Пецярбургская пракуратура 6 мая прыпыніла расследаванне забойства Талькова, бо новы падазраваемы ўцёк ад следства ў Ізраіль. Цяпер следства падазрае ў забойстве Валерыя Шляфмана, былога адміністратара Талькова.

# Вясновы стрыптыз

Маладзенькая задзірыстая Кацюша сядзела на маленькім крэсле ў позе, якая прываблівае позіркі, і паведамляла пра сябе такім жа, як і я, цікаўным:

— Скончыла сярэднюю школу, не паступіла ў інстытут. Грошай няма, прафесіі таксама. Дома сядзець і "тэлек" глядзець — сумна. А тут праца не бі ляжачага. Прынясу першыя зароблены грошы дамоў, думаю, прабачаць і бацькі...

...У адной з маскоўскіх газет з'явілася аб'ява: "Запрашаюцца дзяўчаты для навучання стрыптызу". Раней падобная прапанова выклікала б у многіх савецкіх людзей абуранасць. У стрыптызе бачылі магчымасць узаконіць такую "неафіцыйную" з'яву, як прастытуцыя. Зараз упэўненасць у тым, што адно з другога вынікае, засталася. І таму адкрыццё стрыптыз-школы фірмы "Таіс" выклікае недавер ва ўсіх, акрамя саміх прэтэндэнтак на навучанне ў ёй.

У невялікай зале, дзе праходзіў адбор, пахла дарагімі духамі і потам. Дзяўчат з узрушанымі вачыма і чырвонымі шчокамі падштурхоўвалі шматвопытныя сяброўкі. Увесь запал праходзіў, калі трэба было распранецца перад сквапнымі вочкамі фотааб'ектываў і кінакамер. Праўда, многіх з іх доўга ўгаворваць не спатрэбілася. Яны ліха скідвалі з сябе ўсё лішняе, маўляў, ведаюць, куды прыйшлі. Вердыкт журы нешматслоўны: "Вы прыняты, вы не прыняты". Асноўныя крытэрыі адбору: пышныя грудзі, тонкая талія, прыгожыя ногі. Твар? Намалюць любы. Манатонна гучыць стомлены голас, не звяртаючы ўвагі на радасныя крыкі або пакрыўджаныя ўсхліпванні. Зразумела, не абыходзіцца без істэрык, скандалаў. Высокай бландзінцы растлумачваюць, што яна не падыходзіць фірме. Прымешваючы да сваёй мовы нецэнзурную лаянку, яна патрабуе, каб ёй вярнулі грошы за прагляд.

— Бізнес ёсць бізнес. Непрыгожыя целы мне не патрэбны. Я абяцаю сваім дзяўчатам вялікія грошы і супрацоўніцтва з заходнімі партнёрамі. За тры месяцы працы там можна ўпакавацца з ног да галавы і вярнуцца з інамаркай, — тлумачыць дырэктар фірмы А.М.Кірмусава, прафесійная танцаўшчыца і стрыптызёрка. Азы стрыптызу Кірмусава спасцігала ў Германіі, дзе на працягу двух гадоў выступала ў стрыптыз-бары. Прыехаўшы сюды, яна вырашыла арганізаваць шоу ў маленькім рэстаранчыку з інтымным асвятленнем і далікатнымі стравамі. Мае надзею, што кліентамі яе стануць прадстаўнікі прадпрымальніцкіх колаў.

З 900 дзяўчат адабраны 50. Навучанне ў школе будзе платным. Тры тысячы рублёў прыйдзецца выкласці аматаркам патанцаваць галяком, каб дасягнуць у гэтай справе прафесійнага ўзроўню. Адна з нямногіх спроб дацягнуцца да сусветных шоу-забаў завяршылася адкрыццём стрыптыз-школы.

Таццяна Шчэбет.






# НАВІНЫ СЕКСУ

## Процізачаткавае... вуха

Улічваючы татальны дэфіцыт процізачаткавых сродкаў, вучоны П. Наж'е распрацаваў свой спосаб засцярогі ад непажаданай цяжарнасці. У чым жа яго сутнасць? 2—3 разы на дзень на працягу двух-трох хвілін трэба лёгка — абавязкова лёгка!— масіраваць вонкавае вуха ад кораня завітка да канца ўзыходзячай галінкі, пакуль не з'явіцца пачуццё прыемнага цяпла. Паводле сцвярджэнняў вучоных, такі масаж дастаткова эфектыўны і здольны прадухіліць зачатак. І ўсё ж... Думаецца, што больш надзейна выкарыстоўваць гэты спосаб у якасці дадатковай падстрахоўкі, скажам, да фізіялагічнага метаду прадухілення цяжарнасці.

## Каханне супраць грыпу

Заходнегерманскія вучоныя ўстанавілі, што закаханыя нашмат радзей звяртаюцца па медыцынскую дапамогу, нават у самы разгар эпідэміі... грыпу: эмацыянальны ўздым спрыяе выдзяленню картызону — гармону, які валодае моцным супрацьзапаленчым дзеяннем. А вось фінскія псіхолагі зрабілі вывад, што сексуальная актыўнасць нават абараняе людзей ад характэрных для нашага часу стрэсаў. Але толькі не бязладныя сувязі — яны, наадварот, выклікаюць душэўны дыскамфорт.

## Стымулятар цяжарнасці... для мужчын

Амерыканская вучоная Лінда Уор са штата Вашынгтон вынайшла "стымулятар цяжарнасці", прызначаны для... мужчын. Канешне ж, ён толькі дае магчымасць адчуць мужчынам становішча жанчын у розныя перыяды цяжарнасці. Пакаштаваўшы пілюлю, мужчыны пачынаюць адчуваць не менш як 20 сімптомаў сапраўднай цяжарнасці. Спецыялісты сцвярджаюць, што прэпарат робіць вялікае ўражанне на маладых мужчын, якія рыхтуюцца стаць татамі. Іх адносіны да жонак мяняюцца ў лепшы бок — становяцца больш пяшчотнымі, клапатлівымі і цярпімымі.

## Адзінота і бяссонніца

Аказваецца, паміж імі, як мяркуюць вучоныя, існуе прамая ўзаемасувязь. Італьянскія спецыялісты падлічылі, што амаль кожны пяты еўрапеец пакутуе на бяссонніцу. Асноўная прычына гэтага — адзінота. У людзей жа, чыё сямейнае жыццё ў парадку, са сном ніякіх праблем не ўзнікае.

## Цішэй! "Працэс пайшоў"!..

Пад час менструацыі жанчыны павінны імкнуцца размаўляць як мага цішэй — так лічаць вучоныя. Інакш можна не толькі ахрыпнуць, але і зусім страціць голас. Гарманальная перанасычанасць арганізма, характэрная для гэтага перыяду, абумоўлівае фізіялагічную рыхласць слізістых абалонак, расшырэнне перыферычных сасудаў, схільнасць да кровазліццяў тканіны. Гучная размова, спевы, крыкі могуць прывесці да адслойкі слізістай абалонкі галасавых складак, утварэння "пеўчых" вузялкоў.

## Не хадзіце, дзеўкі, замуж!

Даследаванні вучоных-дэмографаў паказалі, што найменш устойлівыя шлюбы заключаны ў юным узросце. Для дзяўчат, якія выйшлі замуж да 20 гадоў, рызыка разводу на працягу першых дзесяці гадоў сямейнага жыцця прыкладна на 30 працэнтаў большая, чым для тых, хто ўступіў у шлюб у 20—24 гады.

Падрыхтаваў М. Лібінтаў.

# СМЕХ МЕФІСТОФЕЛЯ

Калі Мефістофель звузіў страсці чалавечыя да "занядбалага" золата, то міліцыя пакутуе з-за недахопу чорнага металу. У любым выглядзе. Каб было з чаго зрабіць краты на вокны крам, металічныя дзверы і брамы на базах, сховішчах, надзейныя завалы, сетку для агароджы... Такое ўжо жыццё настала, што ў Мінскай вобласці 73,8 працэнта ўсіх зарэгістраваных злачынстваў — крадзяжы. Пры татальным дэфіцыце ўсё можна прадаць, і таму крадуць літаральна ўсё. Пачынаючы з цвікоў, дошак, ношаных панчох, навалачак, курэй, кансерваў з халадзільніка і заканчваючы бетоннымі блокамі.

Напрыклад, у вёсцы Жыцькава Барысаўскага раёна з незачыненага гаража выкралі 1400 рублёў. У вёсцы Латвіны Капыльскага раёна нехта ўлез на свінаферму саўгаса "Бабоўня" праз жалезабетонны кораб транспарцёра. Выкраў парсюка. У вёсцы Юхноўка Мінскага раёна з будоўлі знікла 30 фундаментных блокаў. Угналі матацыкл "Ява" з незачыненай вазоўні ў вёсцы Казубец Крупскага раёна.

Спецыяльна выбраў прыклады, калі злачынцам не спатрэбілася нават псаваць дзверы, зрываць засаўкі, пералазіць праз агароджу і атручваць сабак. Як кажуць, толькі гультай не спакусіцца ўкрасці. І такіх фактаў, асабліва непрыемных для міліцыі, шмат у кожнай зводцы здарэнняў. Хтосьці пашкадаваў грошай на элементарны замок альбо сіл не хапіла ключ павярнуць, а вышукніку і ўчастковаму бегай, шукай... Відаць, прывык народ жыць спакойна ў застойныя часы. Усё навокал калгаснае — усяго шмат. Бліны мазалі маслам з чатырох бакоў і ноччу дзверы каўбасой закручвалі. Цяпер жа нярэдка і тлушч са склепа крадуць. А што ж міліцыя сталічнай вобласці? 8 мая яна падводзіла вынікі чатырох месяцаў бягучага года на аператыўнай нарадзе, скліканай начальнікам УУС.

Калі забыцца на рэаліі дня і выкарыстаць вузкаведамасны падыход — дык самы час медалі жменямі раздаваць. Следчыя працавалі больш эфектыўна, вышук наогул лепшы ў рэспубліцы. Раскрыта 3121 злачынства, ці на 57,1 працэнта больш, чым за чатыры месяцы мінулага года.

А ўвогуле мала падстаў для пераможных рапартаў. Злачынстваў зарэгістравана на 1750 больш. Толькі ў Стаўбцоўскім раёне ўдалося знізіць узровень злачыннасці, а ў астатніх ён павялічыўся часам у 2—3 разы. Надышло лета, час водпускаў, канікулаў. Мала жадаючых адправіцца ў горы і да Чорнага мора, бо там зараз "гарачая кропка планеты", і большасць мінчан паедзе адпачываць у вёску, на дачы, проста на прыроду ў лес, на рэчку. Дзе больш людзей, там і злачыннасць павялічваецца. Так, у маладзёжным цэнтры "Юнацтва", што знаходзіцца на беразе Заслаўскага вадасховішча, злодзей падабраў ключ да гасцінічнага пакоя і выкраў у мінчан дзве скураныя курткі, відэамагнітафон з касетамі. Мінчанін В. Круцько ў пасёлку Свіслач на асабістых "Жыгулях" наехаў на шасцігадовую дзяўчынку. У Мінскі райаддзел звярнуліся навучэнец сталічнага СПТВ і два школьнікі: ноччу на беразе возера недалёка ад вёскі Дачкі на іх напала група падлеткаў. Збілі, забралі спінінгі, перагаворнае прыстасаванне і прадукты харчавання. У тым жа раёне, толькі ў лесе ля вёскі Баравая, невядомы мужчына абакраў жыхарку Мінска на 150 рублёў. Васьмікласніца прыехала з бацькамі да бабулі ў Лагойскі раён. Увечары пайшла на танцы, а раніцай бацька прыйшоў з заявай у міліцыю, што яго дачку згвалтавалі. Чатыры сталічныя хлопцы прыехалі ў Дзяржынскі раён адпачыць на рацэ Уса. Ноччу да іх падкацілі невядомыя на матацыкле і, пагражаючы нажом, забралі рукзак, коўдру, адзенне, іншыя рэчы. А як усталюецца цёплае надвор'е — такія злачынствы пасыплюцца адно за адным. І галава з-за гэтага павінна балець не толькі ў міліцыі.



М. Фядотаў,
супрацоўнік УУС
Мінаблвыканкама.

## ІНФА-КРЫМ

ІНФА-КРЫМ

### Каму свята, каму будні

Як вядома, 19 мая — свята піянерскай арганізацыі. Аднак гэта не спыніла руку невядомага, які ў гэты дзень выкраў з піянерлагера "Зубраня" адзінаццаць рулонаў лінолеуму.

### "Кампенсацыйная мера"

Яе прадпрыняў у сувязі з падаражаннем энерганосьбітаў невядомы злачынец, які ў ноч на 19 мая ў вёсцы Жажалка Смалявіцкага раёна з цыстэрны эксперыментальнай базы "Жодзіна" выкраў каля тоны бензіну А-76.

### За сямю пячацямі

Тры навясныя замкі не спынілі неўстаноўленых злачынцаў, якія з 16 па 19 мая абрабавалі магазін райспажыўсаюза ў вёсцы Дзярэчына Капыльскага раёна: вынеслі мужчынскае і жаночае адзенне і абутак, электрафены і парфумерыю (усяго на 48 тысяч рублёў).

### Дэкрэт за кратамі

правядзе 36-гадовая жыхарка вёскі Зарэчча Нясвіжскага раёна. Нават цяжарнасць не перашкодзіла ёй у час распіцця спіртных напіткаў з сужыцелем нанесці яму сякерай удар па галаве.

### Парасон для злодзея

У ноч на 19 мая з магазіна № 1 у пасёлку Крупскі аднайменнага раёна выкрадзена віно, цыгарэты і некалькі мужчынскіх парасонаў.

### Ні ў якія вароты...

Адметнае здарэнне адбылося 19 мая ў вёсцы Дзічкі пад Мінскам. З дачнай новабудоўлі выкрадзены гаражныя вароты.

У бюро дзяжурыў П.Сіманаў.

# ВИТЕБСКОЕ ПРОФЕССИОНАЛЬНО-ТЕХНИЧЕСКОЕ УЧИЛИЩЕ № 29 ЛЕГКОЙ ПРОМЫШЛЕННОСТИ

## объявляет прием на учебу молодежи со средним образованием по специальности:

* оператор, швея по изготовлению мужской верхней одежды и женского легкого платья, имеющая навыки раскроя;
* швея, раскройщик мужской верхней одежды;
* швея, контролер мужской верхней одежды;
* швея, скорняк-раскройщик меховых изделий;
* слесарь-ремонтник – срок обучения 1 год;
* портной, умеющий раскраивать, – срок обучения 2 года.

## С образованием 9 классов по специальности:

* швея, умеющая раскраивать;
* швея, скорняк-раскройщик меховых изделий – срок обучения 2 года.

В училище принимается молодежь без экзаменов.

Выплачивается стипендия и деньги на питание в размере от 425 до 800 рублей в месяц. Во время производственного обучения и производственной практики учащиеся получают 75 процентов от заработанной суммы. Все иногородние обеспечиваются жилой площадью.



Адрес: *Витебск, ул. Октябрьская, 14, ПТУ-29, тел. 36-42-72.*
Проезд *автобусами №№ 1, 2, 3, 4, 5, 7, 8, 10, 13, 14, 17, 19, 22, 25, троллейбусами №№ 1, 2, 3, 4 до остановки ул. Комсомольская.*

Поступающие в училище представляют следующие документы:

- ☐ заявление на имя директора училища;
- ☐ аттестат (подлинник);
- ☐ справку с места жительства;
- ☐ медицинскую справку;
- ☐ шесть фотокарточек (3х4 см).

Начало занятий — 1 сентября 1992 года.

Дирекция.

# Рагачоўскае педагагічнае вучылішча

**Калі Вы вырашылі стаць выхаваццелем дзіцячай дашкольнай установы, запрашаем Вас на вучобу ў Рагачоўскае педагагічнае вучылішча. Вучылішча падрыхтоўвае выхаваццеляў дзіцячых дашкольных устаноў па сп ецыяльнасці 0308 "Дашкольнае выхаванне" на базе поўнай сярэдняй школы. Тэрмін навучання 1 год 10 месяцаў.**

Заўвага: У сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь прымаюцца жыхары рэспублікі (уключаючы замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі рэспублікі).

Для допуску да ўступных экзаменаў неабходны наступныя дакументы:

*1. Заява адпаведнай формы.*
*2. Дакументы аб поўнай сярэдняй адукацыі ў арыгінале.*
*3. Медыцынская даведка па форме № 086/у.*
*4. Чатыры фотаздымкі для дакументаў памерам 3×4.*
*5. Выпіска з працоўнай кніжкі (для маючых працоўны стаж).*
*6. Пашпарт (або пасведчанне аб нараджэнні) прад'яўляюцца асабіста ў прыёмную камісію.*

Дакументы падаюцца ў прыёмную камісію.

*Тэрмін падачы дакументаў з 1 чэрвеня па 31 ліпеня.*

## УСТУПНЫЯ ЭКЗАМЕНЫ:

Паступаючыя здаюць два ўступныя экзамены:

— па беларускай мове і літаратуры (дыктант) і біялогіі (вусна).

Заўвага: Асобы, якія беларускую мову і літаратуру не вывучалі, маюць права здаваць пісьмовы экзамен па рускай мове і літаратуры (сачыненне).

*Уступныя экзамены з 15 ліпеня.*

## ПАРАДАК ЗАЛІЧЭННЯ:

1. Без уступных экзаменаў прымаюцца асобы, якія закончылі поўную сярэднюю школу з залатым ці сярэбраным медалём, дыпломам з адзнакай — ПТВ на базе поўнай сярэдняй школы.

2. Залічэнне вышэйназваных катэгорый праводзіцца за 5 дзён да пачатку ўступных экзаменаў у межах да 60% плана прыёму.

3. Ад уступнага экзамена па адпаведнаму прадмету з выстаўленнем адзнакі "5" (выдатна) вызваляюцца пераможцы (1, 2, 3 месца) 1991—1992 гг. абласных тураў алімпіяд навучэнцаў школ і ПТВ.

4. Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых адзнак на ўступных экзаменах залічваюцца:

— дзеці-сіроты і дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў;

— інваліды I і II груп;

— звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, што маюць пасведчанне ваенкамата аб праве на льготы пры залічэнні, рэкамендацыі воінскіх часцей;

— асобы, якія маюць на гэта льготы ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС";

— асобы, якія пастаянна пражываюць у сельскай мясцовасці і паступаюць на падставе ўстаноўленых органамі народнай адукацыі планаў мэтавай падрыхтоўкі.

Права на залічэнне маюць асобы, якія паспяхова вытрымалі экзамены і прайшлі па конкурсу.

5. Пры аднолькавай агульнай колькасці балаў пераважнае права залічэння маюць асобы з больш вялікім стажам практычнай работы па профілю абранай спецыяльнасці.

*Залічэнне ў лік навучэнцаў да 25 жніўня.*

У перыяд з 1 па 15 ліпеня ў вучылішчы працуюць платныя падрыхтоўчыя курсы па беларускай мове і біялогіі. Плата за навучанне на курсах — 50 рублёў за ўвесь перыяд навучання.

На перыяд падрыхтоўчых курсаў і ўступных экзаменаў усе іншагародні паступаючыя забяспечваюцца інтэрнатам.

Адрас вучылішча: *247250, Гомельская вобласць, г.Рагачоў, вул.Цымермана, 20.*

Тэлефоны: *2-10-05, 2-19-06.*



Прыёмная камісія.

# Рызыка

*Гумарэска*

**Інспектару Вясёлкінду прысвячаецца**

Пеўні не спявалі. І ўсё ж гэта быў ранак, бо развіднелася. Цягнік апынуўся ў Мінску.

Я праверыў рэчы. Партатыўны магнітафон, лыжа "Целяханы", лязо "Шык", чорная панчоха на твар і кайстра з галоўным грузам — усё на месцы, нічога не забыў. Мая задача — незаўважна дабрацца да месца прызначэння. Горад незнаёмы, але, кажуць, тут жывуць ведамы спявак Салабрухаў, які калісьці выступаў у нашым Дручынску. Мог мяне бачыць і пры сустрэчы пазнае.

Незаўважна вымаю шкло і праз акенца ўціскаюся ў кааператыўную прыбіральню. Заходжу ў кабінку, замыкаю дзверы на лыжу. Тузаю шнурок унітаза — не змывае. Гэта прадугледжана. Клавіша магнітафона — і ў наваўнасці адпаведныя гукі. Зараз можна рыхтавацца. Галоўнае — змяніць знешнасць. Самы эфектыўны сродак — вывернутае адзенне. Цяпер яны не здагадаюцца па шэрай падкладцы, што куртка была з чорнай балонні. Акуляры, на жаль не вывернеш. Але, калі пабіць шкельцы, ім будзе цяжка сачыць за маімі вачыма. Лязом галю галаву, апранаю на галаву чорную панчоху. Здаецца, усё. Выходжу з кабінкі. Прыбіральнае люстра мяне не пазнае. Цудоўна!

Бадзяюся па горадзе. Цікаўлюся нецікавым, куплю і тут жа выкідаю розную непатрэбшчыну — стараюся нічым не вызначацца. Са знарок абыякавым выглядам набываю квіток у кіно. У буфеце, выпіўшы ліманад, выразаю дно і хаваю пластмасавы станчык у кішэню. Знішчаю квіток, выходжу на вуліцу. У люстэрка правяраю, што робіцца за спінай, і падскокваю да таксафона. Трубку на тым канцы дрота доўга не здымаюць. Нарэшце, доўгачаканае "алё". Праз пластмасавы станчык глухім голасам лаканічна паведамляю:

— Каля дзвярэй вы знойдзеце тое, што вас зацікавіць.

Хуценька вешаю трубку і бягу да іншага аўтамата. Панчоха, заціснутая паміж зубоў, робіць голас непазнавальна картавым. Набіраю той самы нумар, паўтараю завучаную фразу і зноў вешаю слухаўку. Еду на другі канец горада і тэлефаную адтуль. Пятнаццаць званкоў хопіць. Дастаткова, каб прыцягнуць увагу.

Неўзабаве назіраю з кустоў за патрэбным будынкам. Дзверы адчыняюцца. Вытыркаецца галава. За ёю — рука. Далонь мацае пусты ганак. Усё знікае назад за дзверы. Ага, значыць, чакаюць. Дастаю з кайстры вялікі папяровы пакунак і выводжу зверху буйнымі літарамі: ГЕНІЯЛЬНЫ ТВОР. Вырашаю здзівіць сціпласцю і дадаю: НЕВЯДОМАГА АЎТАРА. Ніжэй акуратна пішу сваё прозвішча, горад і дакладны адрас. Куляй вылятаю з кустоў, кладу пакет на ганак, гучна грукаю нагой у дзверы і бягу прэч ад рэдакцыі. Насустрач літаратурнай славе і вядомасці.

**Мікола Касцюкевіч.**






Мал. Сеўлюка.

## ЧЫТАЧ ПЫТАЕЦЦА — "ГАРЧЫЧНІК" АДКАЗВАЕ

*— Не памятаю, у якойсьці газеце прачытаў, што жыццё на Беларусі апошнім часам палепшылася. Ці праўда гэта?*

**Я.Гуз,**
**в.Спрытнюкі**
**Навабрудскага р-на.**

**"Гарч."**

— Так, шаноўны Я.Гуз, Вы не памыляецеся. Жыццё на Беларусі сапраўды палепшылася. Узяць, да прыкладу, харчаванне. Хіба мог сярэдні беларус гады два таму дазволіць сабе шасцірублёвую катлету на абед? А цяпер... Зазірніце ў любую студэнцкую сталоўку — і Вы пераканаецеся, што нават першакурснік зялёны і той менш як на чырвонец не харчуецца. Што ж тычыцца выдання, у якім Вы прачыталі аб "паляпшэнні", дык мы яго дакладна вызначыць наўрад ці зможам. Бо большасць цяперашніх беларускіх газет гаворыць аб паляпшэнні.

* * *

*— Я пенсіянерка. Маю шмат вольнага часу і таму хацела б падпрацоўваць 4—5 гадзін у дзень. Кажуць, што цяпер зарабляюць лепей за ўсіх брокеры. Ці не падкажа ваша газета, дзе можна ўладкавацца брокерам на палову стаўкі?*

**У.Залепава,**
**г/п Лысойск.**

**"Гарч."**

— Паважаная У.Залепава, наконт прэстыжнасці работы брокера Вы не памыляецеся. Апроч таго, у Вас добрыя густ, слых і ніжняя губа. Але спяшаемся расчараваць Вас. У Вашым родным Лысойску, на жаль, няма брокерскіх кантор. Няма іх і ў бліжэйшых да гарадскога пасёлка вёсках. Затое там ёсць іншыя канторы. Па нарыхтоўцы металалому, напрыклад. Можа б Вам заняцца зборам згубленых калгаснымі механізатарамі жняярак, сеялак ды самалётаў АН-2? Жадаем поспехаў!

* * *

*— Скажыце, калі ласка, куды падзявалася "Дзяўчына тыдня"?*

**Пятро Смык,**
**вучань трэцяга класа**
**Смыковіцкай СШ**
**Вялікасмыкскага раёна.**

"Гарчычнік" перадаў ліст Пятра Смыка "Дзяўчыне тыдня". Яна й адказвае:

— Пецечка, любы ты мой заступнічак. Калі мне перадалі пісьмо з тваім пытаннем і я яго прачытала, слёзы лінулі з маіх бессаромных вочак. Не забытая я. І не вінаватая я, што мяне знялі як рубрыку. Шмат разоў мне даводзілася бываць знятай і на фотастужку, і ў рэстарацыях, але вось такім чынам — упершыню. Накіравалі мяне на курсы павышэння кваліфікацыі ў "Плей бой", куды ты мне можаш смела напісаць.

Гут бай, Піцер! Ай вонт ю!

## Кінаафіша

### "Зімовая вішня-2"

Гэтую новую каляровую мастацкую кінастужку прапаноўвае ўвазе гледачоў студыя "Траецкі мост" сумесна з фірмай "АРТВ" (ЗША). Яе паставіў рэжысёр Ігар Масленікаў па сцэнарыю Уладзіміра Валуцкага. Фільм з'яўляецца працягам добра вядомай стужкі "Зімовая вішня", якая за мінулыя гады назбірала не адзін дзесятак мільёнаў гледачоў і распавядае аб далейшым лёсе галоўных герояў, іх пачуццях і складаных узаемаадносінах.

...Мінула пяць гадоў. Воля выйшла замуж за іншаземца і паехала за мяжу. І вось, прыехаўшы на некалькі дзён разам з мужам і дачкой у Ленінград, яна сустракае Вадзіма. Вадзім здагадваецца, што дзяўчынка – яго дачка. Але галоўнае, што пазбаўляе яго самавалодання,– нечакана моцнае і непадуладнае яму пачуццё кахання да Вольгі, такой жа чароўнай, як і раней, але цяпер недасягальнай і таму яшчэ больш жаданай. Усе ягоныя думкі скіраваны толькі на яе. Ніхто не ў сілах пазбавіць яго душэўнай пакуты: ні жонка з яе ахвярнасцю, ні маладая палюбоўніца, гатовая нарадзіць яму дачку. Усведамляе Вадзім і ўсю недарэчнасць надзеі, што Вольга зноў вернецца да яго...

У фільме здымаліся папулярныя акцёры – Віталь Саломін, Алена Сафонава, Ірына Мірашнічэнка, Ірына Клімава, Ніна Русланава, Ларыса Удавічэнка.

### "Дэпрэсія"



Каляровую мастацкую кінакарціну з такой назвай знялі прыбалтыйскія кінамайстры. Яе паставіў рэжысёр Алоіз Брэнч па сцэнарыю Андрыса Колбергса на студыі "Дэкрым". Стужку можна аднесці да жанру сацыяльна-псіхалагічнага дэтэктыва, такога любімага гледачамі ўсіх узростаў і густаў.

...Рыжанка Імалда перанесла ў сваім маладым жыцці нямала ўдараў і ўзрушэнняў. Бацька сядзіць у турме, адбываючы тэрмін за растрату. Маці загінула на вачах у дзяўчыны пры невысветленых абставінах. Калі ж Імалда ўладкоўваецца на працу ў рэстаран танцоўшчыцай начнога вар'етэ, лёс падносіць ёй новыя беды. Пасля сустрэчы са швейцарам рэстарана, дзяўчына западозрыла ў ім забойцу сваёй маці. Скарыстаўшы даверлівасць Імалды, дырэктар установы Рауса гвалтуе яе. Да таго ж у выніку фатальных акалічнасцей маладая танцоўшчыца апынулася ўцягнутай у жорсткую барацьбу дзвюх праціборствуючых наркабанд. Канчаткова адчаяўшыся, Імалда пачынае помсціць сваім крыўдзіцелям, узяўшы ў рукі стрэльбу...

Галоўныя ролі ў фільме выконвалі Марына Майко, Гірт Якаўлеў, Данатас Баніёніс.

Дзяжурны рэдактар А. АГІБАЛАВА.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

Чырвоная Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.
Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро газетна-выдавецкай фірмы "Белая Русь".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82, 32-50-01.

Зак. № 21

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12